3 лютага 2017 | № 4 (518)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Шчодры Елбасы**
стар. 8



# Апошні піск інвестыцый

**Арышты бізнесоўцаў прывядуць да таго, што бізнесу ў краіне не застанецца**



Сяргей ПУЛЬША

У заснавальніка і дырэктара кампаніі «Сармат-Тэрма-Інжынірынг» Аляксандра Кныровіча, затрыманага КДБ, і былога ўладальніка ААТ «Мотавела», старшыні назіральнага савета шклозавода «Ялізава» Аляксандра Мураўёва, асуджанага да 11 гадоў з канфіскацыяй, шмат агульнага.

Абодва паспяховыя бізнесоўцы. Абодва спадзяваліся, што можна мець справу з дзяржавай. Абодва думалі, што чыноўнікі зразумеюць: законы бізнесу немагчыма рэгуляваць адміністрацыйна. Розніць іх тое, што Кныровіч казаў пра гэта адкрыта, а Мураўёў асабліва на публіку не лез.

Зараз абодва за кратамі. Мураўёву прысуд вынесены першай інстанцыяй — судом Фрунзенскага раёна Мінска, у Кныровіча ідзе следства па абвінавачванні яго ў нявыплаце падаткаў.

Кныровіча абвінавачваюць у нейкіх «падстаўных тэндэрах» у сістэме ЖКГ. Аляксандр Лукашэнка звыкла праігнараваў і следства, і суд, і прэзумпцыю невінаватасці, выказаўшыся наконт бізнесоўца адназначна: «На ім кляйма ставіць няма дзе, разам з тым дзясяткам, каго арыштавалі… Прабачэння жулікам ніякага не будзе. Злодзей павінен сядзець у турме — вось такую рэзалюцыю я наклаў на даклад старшыні Камітэта дзяржбяспекі. Усе, хто да гэтага датычны, будуць сядзець».

Між тым, блогер Віктар Малішэўскі прасачыў адкрытую інфармацыю па тэндэрах, у якіх удзельнічала кампанія Кныровіча. І не знайшоў там нічога крымінальнага ці падстаўнога. Там, дзе «Сармат-Тэрма-Інжынірынг» даваў лепшыя ўмовы — ён і выйграваў. Дзе горшыя — прайграваў. Мабыць, у следства ёсць іншая інфармацыя, але што гэта тады за «закрытыя» тэндэры дзяржаўных кампаній ЖКГ?

І яшчэ маленькі штрых да справы. Згодна з інфармацыяй, распаўсюджанай КДБ, «Сармат-Тэрма-Інжынірынг» недаплаціў дзяржаве не менш за 2,8 млн рублёў падаткаў. Бацька бізнесоўца, Станіслаў Кныровіч, сказаў журналістам: «ЖКГ застаецца вінна СТІ, то бок Аляксандру, $1,5 млн за пастаўленую прадукцыю. Калі вы памножыце гэта на курс долара, вы будзеце мець «нясплачаныя» падаткі».

А што можна казаць наконт Мураўёва? Сапраўды, інвестыцыйныя ўмовы «да літары» ён не выканаў. Але немагчыма ўзняць прадпрыемства, якое 10 гадоў знаходзілася ў заняпадзе, імгненна. Проста зазначым, што па дадзеных Мінфіна за 2013 год, калі кіраваў Мураўёў, выручка ААТ «Мотавела» склала 340 млрд. рублёў, чысты прыбытак — 2,9 млрд. Мураўёва арыштавалі ў 2015-м, і ў тым жа годзе чыстыя страты «Мотавела» склалі амаль 123 млрд. рублёў. А прыйшоўшы на замену Мураўёву экс-мэр Мікалай Ладуцька, паабяцаўшы «залатыя горы», пазней раптам прапанаваў пачаць працэдуру банкруцтва…

Арышт Кныровіча і амаль адначасовы прысуд Мураўёву можа паставіць крыж на ўнутраных інвестыцыях. Беларускія бізнесоўцы больш не будуць звязвацца з дзяржавай і ўкладаць грошы ў яе праекты.

Можа, урад і завабіць у Беларусь замежных інвестараў, якія не разумеюць, у якой краіне ім давядзецца весці прадпрымальніцкую дзейнасць. Але такіх будзе ўсё менш і менш.




**Рэзанансныя арышты не спрыяюць паляпшэнню дзелавога іміджу краіны. На аднаго пасаджанага бізнесоўца будзе дзесяць тых, хто згорне сваю дзейнасць у Беларусі**

І не кажыце, што «справа Мураўёва» не паўплывала на інвестыцыйную прывабнасць краіны. За апошнія часы ў Беларусі згарнулі свой бізнес такія монстры, як літоўскі холдынг па перапрацоўцы рыбы і марапрадуктаў Viciunai (уладальнік брэнда Vici) «Вічунай Бел». Скараціў бізнес «Хоум Крэдыт Банк» з чэшска-галандскім капіталам. У 2016-м годзе Мінюст пазбавіў ліцэнзіі агенцтва нерухомасці «Пакадан» — па адной скарзе кліенткі была знішчана фірма, якая працавала 20 гадоў і мела 22 офіса па ўсёй краіне. З беларускага рынку апошнім часам сышлі «Росдзяржстрах», эстонскі Olympic Entertainment Group (казіно і гульнявы бізнес)… І гэта далёка не поўны спіс.

Не ўсе скарачэнні і сыходы наўпрост выкліканыя пасадкамі бізнесоўцаў. Але ўсё гэта кажа пра інвестыцыйны клімат Беларусі і бізнес-клімат увогуле. І ў гэтай сітуацыі рэзанансныя арышты ніяк не спрыяюць паляпшэнню дзелавога іміджу. На аднаго пасаджанага бізнесоўца прыйдзецца дзесяць тых, хто згорне сваю актыўнасць у Беларусі.

Канешне, на прыкладзе Чыжа, Баскіна, Паўлоўскага (усе яны «кампенсавалі шкоду дзяржаве» на буйныя сумы) дзяржава зразумела, як можна патрэсці бізнес. Але з Мураўёвым гэтая тэма ўжо не прайшла. Калі так пойдзе далей, бізнесу ў краіне проста не будзе. Ніякага.

І каго потым пачнуць трэсці?

3 лютага 2017 | № 4 (518) Новы Час

# Бандарэнка зноў на ўліку

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Праваабаронцу ў другі раз паставілі на прафілактычны ўлік, як асобу, якая ў лістах паклёпнічае на нашу турэмную сістэму і ставіць пад сумнеў прававыя асновы дзяржаўнасці.**

Яшчэ адзін ліст прабіўся праз цэнзурнае сіта ад Андрэя Бандарэнкі — на адрас яго бацькі. У лісце Андрэй паведамляе, што яму абвясцілі новае спагнанне. 4 студзеня яго выводзілі ў лазню. Па дарозе канваіраў выклікалі па рацыі, і яны, у парушэнне інструкцыі, пакінулі Бандарэнку ў калідоры, а самі сышлі. Побач знаходзіўся іншы асуджаны, які стаў чапляцца да Андрэя з пытаннямі. Разумеючы, што гэта — правакацыя, Бандарэнка не адказваў.

Калі канваіры вярнуліся, то «знайшлі» парушэнне рэжыму: Андрэй не стаяў тварам да сцяны і не трымаў рукі за спінай. Бандарэнка спрабаваў растлумачыць, што ў руках у яго быў пакет з баннымі прыладамі. Аднак яго тлумачэнні былі адхіленыя, і ў выніку яго пазбавілі чарговага спаткання, якое павінна было адбыцца ў лютым.

З нагоды маючага адбыцца над ім суду (Андрэя Бандарэнку павінны судзіць за «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы») праваабаронца паведамляе, што той будзе ў канцы лютага. І вельмі верагодна, што суд адбудзецца на тэрыторыі Магілёўскай турмы. Мэта зразумелая: менш сведкаў — менш уцечкі інфармацыі.

Андрэй Бандарэнка піша, што лісты да яго не даходзяць, і ён сам не ведае, ці прапускаюць яго лісты на волю. Ён прыносіць прабачэнні сваім адрасатам, якія не атрымліваюць ад яго вестак, і ўсім перадае прывітанне.

У той жа час вязень сумлення 26 студзеня выкарыстаў права на адзін званок у месяц свайму бацьку. Асноўная навіна: яго паставілі на прафілактычны ўлік — ужо ў другі раз, як асобу, якая ў лістах паклёпнічае на нашу турэмную сістэму і ставіць пад сумнеў прававыя асновы дзяржаўнасці. На думку адміністрацыі турмы, інфармацыйную дзейнасць Бандарэнкі можна расцаніць як дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь. У 2005 годзе адпаведны артыкул (369-1) быў уключаны ў Крымінальны кодэкс.

Зразумела, што арганізатары судовага працэсу робяць усё магчымае для таго, каб паказаць злосны характар паводзін Бандарэнкі ў перыяд адбывання пакарання ў адзіночнай камеры.

З такім рашэннем праваахоўных органаў не згодныя ўдзельнікі Форуму «Свабоду палітвязням», якія падпісалі зварот да генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь А. Канюка з патрабаваннем спыніць крымінальны пераслед Андрэя Бандарэнкі. Сярод падпісантаў — Мікалай Аўтуховіч, Мікалай Статкевіч, Міхаіл Пастухоў, Ганна Шапуцька, Святлана Каваленка, Вольга Нікалайчык, Вольга Маёрава і іншыя.

# У Магілёве рыхтуюць марш

**Магілёўскія дэмакратычныя актывісты падалі заяўку на правядзенне 19 лютага маршу супраць дэкрэту № 3 пра барацьбу з так званымі «дармаедамі».**

Заяўку падпісалі каардынатар аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» ў Магілёве Алег Аксёнаў і старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Шанцаў, паведамляе bchd.info.

Нагадаем, што 17 лютага Нацыянальны кангрэс Уладзіміра Някляева і Мікалая Статкевіча заклікае на акцыю ў цэнтры Мінска супраць дэкрэта №3.

У Гомелі 19 лютага па вуліцы Савецкай мусіць прайсці масавае мерапрыемства, ініцыятарамі якога выступілі рэгіянальныя структуры Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай партыі левых «Справядлівы свет», аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», прадстаўнікі Беларускага нацыянальнага кангрэса, іншыя рухі і ініцыятывы.

На 15 сакавіка ў Мінску запланаваны «Марш недармаедаў», у аргкамітэт якога ўвайшлі дзевяць арганізацый: Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», Аб'яднаная грамадзянская партыя, Рух «За Свабоду», аргкамітэты па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», Партыі працоўных і партыі «Надзея», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Беларуская партыя «Зялёныя» і грамадзянская кампанія «Наш дом».

# Дамова з «Белсатам» скасаваная

**«Ранейшая дамова МЗС Польшчы і Польскай тэлевізіі наконт стварэння «Белсату» ўжо скасаваная», — напісаў у артыкуле для газеты «Rzeczpospolita» дзяржсакратар у справах бяспекі, усходняй і еўрапейскай палітыкі МЗС Польшчы Марэк Зюлкоўскі.**

«Мы ахвотна распачнём з дасведчанай беларускай камандай «Белсату» дыскусію, як змяніць гэты СМІ, каб ён мог знайсці патрэбнага спонсара і прэстыж важнага сродку беларускай камунікацыі», — напісаў высокапастаўлены чыноўнік МЗС у артыкуле «МЗС глядзіць на ўсход. Карпатлівая нармалізацыя дачыненняў з Беларуссю».

Марэк Зюлкоўскі мае пасаду, роўную намесніку міністра замежных спраў, ён адказвае ў ведамстве за ўсходнюю палітыку Польшчы.

З неафіцыйных крыніц стала вядома, што польскае МЗС цалкам спыняе фінансаванне «Белсату». У дадзены момант «Белсат» часова фінансуе Польская грамадская тэлевізія TVP, часткай якой канал і з'яўляецца.

5 студзеня дырэктарка тэлеканалу «Белсат» Агнешка Рамашэўская сустрэлася з прэм'ер-міністаркай Польшчы Беатай Шыдла і паведаміла на сваім профілі ў Фэйсбуку: «Думаю, што будзеце задаволеныя, як і я, навіною, якую я перадаю: пані прэм'ер запэўніла мяне і ўпаўнаважыла заявіць, што існаванню «Белсату» нічога не пагражае. Найбліжэйшы месяц мы прысвецім абмеркаванню далейшых прынцыпаў супрацоўніцтва з МЗС».

Паводле МЗС Польшчы, ад 2007 года агулам фінансаванне тэлеканалу «Белсат» склала 157 мільёнаў злотых (за гэты час курс злотага вагаўся ад 2 да 4 за долар ЗША). Гэта трацiна ўсіх сродкаў, якія Польшча выдаткавала за гэты час на падтрымку дэмакратыі ў Беларусі.

25 студзеня дзяржсакратар МЗС Польшчы Марэк Зюлкоўскі сустрэўся з амбасадарам Беларусі ў Варшаве Аляксандрам Авяр'янавым. У польскі парламент цяпер прыехала з візітам дэлегацыя Палаты прадстаўнікоў Беларусі. Польскі візіт — першы ў гісторыі Палаты прадстаўнікоў— працягнецца да 2 лютага.

**Паводле «Радыё Свабода»**

# Разгледжаны апеляцыйныя скаргі Івана Барбашынскага

Зінаіда ЦІМОШАК

**У Мінскім абласным судзе 31 студзеня Іван Барбашынскі абскарджваў рашэнне суда Слуцкага раёна. Суд прыняў чаканае рашэнне — падтрымаў пазіцыю слуцкіх калег, а скаргу Барбашынскага не задаволіў.**

Нагадаем, 22 лістапада 2016 года Івана асудзілі за ўчыненне злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 363 Крымінальнага кодэкса і прызначылі пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на 2 гады без накіравання ў папраўчую ўстанову.

Іван Барбашынскі віну сваю не прызнаў і паспрабаваў абскардзіць прысуд.

У апеляцыйнай скарзе Іван пісаў, што ў ходзе судовага расследавання не знайшлі пацверджання ні сам факт яго знаходжання ў нецвярозым стане, зневажальным для годнасці грамадзян, ні факт прымянення гвалту з яго боку ў адносінах да супрацоўнікаў міліцыі ў салоне службовага аўтамабіля. Былы падсудны лічыць, што суд даў няслушную ацэнку прадстаўленым доказам і зрабіў непацверджаныя высновы аб яго злачыннай віне.

Згодна са скаргай заяўніка, у ходзе судовага следства не была дадзена аб'ектыўная ацэнка гвалтоўным дзеянням супрацоўнікаў міліцыі, якія прычынілі Івану Барбашынскаму сур'ёзныя фізічныя пашкоджанні.

Зыходзячы з таго, што высновы суда не адпавядаюць фактычным абставінам крымінальнай справы, Іван Барбашынскі папрасіў калегію Мінскага абласнога суда адмяніць прысуд суда Слуцкага раёна і спыніць справу.

Адвакатка Юлія Станкевіч, якая выступала абаронцам Івана Барбашынскага, у апеляцыйнай скарзе падтрымала патрабаванні свайго кліента і прывяла шмат доказаў яго невінаватасці. Станкевіч лічыць, што высновы суда не адпавядаюць фактычным абставінам справы.

На думку адваката, прысуд утрымлівае вельмі шмат супярэчнасцяў нават у прымяненні артыкулу пакарання і да супярэчлівых паказанняў міліцыянтаў. Так, пацярпелы міліцыянт Яўген Шустэр у адных паказаннях казаў, што Ігар Барбашынскі «ўдару мне нанесці не паспеў... спрабаваў ударыць, пры гэтым стукнуў не меней чым 5 разоў па нагах», а пасля правядзення экспертызы 21 сакавіка 2016 года змяніў паказанні і стаў казаць пра ўдары ў грудзі, забыўшыся пра ногі.

Іншы пацярпелы супрацоўнік міліцыі Руслан Ламейка спачатку катэгарычна адмаўляў гвалт у адносінах да пабітага Івана Барбашынскага — за выключэннем прымянення кайданкаў і распылення газу. Аднак гэтаму супярэчыць ім жа ўласнаручна зроблены запіс у Кнізе ўліку прымянення фізічнай сілы, дзе ён піша пра «расслабляючыя ўдары» ў адносінах да Івана.

**Сам асуджаны не надта спадзяваўся на судовую рэабілітацыю і прыняцце рашэння, якое б задаволіла яго скаргу**

Чамусьці суд не даў ніякай ацэнкі гэтым супярэчнасцям, як і не даў належнай ацэнкі паказанням сведкі, які нібыта падчас затрымання мужчын знаходзіўся ў аўтамабілі непадалёк. Падчас следства ён гаварыў, што супрацоўнік міліцыі адразу ж падышоў да яго і запісаў нумар яго тэлефона ўначы 20 сакавіка. А ў судзе казаў, што супрацоўнік міліцыі запісаў яго тэлефон праз некалькі дзён у горадзе.

Да таго ж сведка схаваў ад следства сваё сяброўства з міліцыянтам Яўгенам Шустэрам, якое было адсочана ў інтэрнэце. Чамусьці яго аўтамабіль не быў зафіксаваны і відэарэгістратарам службовага аўтамабіля ў той час, як былі зафіксаваны іншыя аўтамабілі.

Дарэчы, спраўны відэарэгістратар не зафіксаваў і саму бойку ў аўтамабілі. І гэта таксама сведчыць на карысць Івана Барбашынскага, які сцвярджаў, што браты паводзілі сябе зусім ціха і мірна, паколькі ўжо былі збітыя пры затрыманні і «апрацаваныя» газам да моманту пасадкі ў аўтамабіль.

Такіх супярэчнасцяў і іншых цікавых акалічнасцяў у судовай справе вельмі шмат.

Сам асуджаны не надта спадзяваўся на судовую рэабілітацыю і прыняцце рашэння, якое б задаволіла яго скаргу.

— Навокал столькі інфармацыі аб несправядлівых рашэннях судоў, што ў мяне таксама не было спадзявання на ўсебаковае, поўнае і аб'ектыўнае даследаванне абставін справы калегіяй Мінскага абласнога суда, — паведаміў Іван Барбашынскі. — Суддзям прасцей ухваліць рашэнне Слуцкага суда, а не ставіць пад сумнеў яго рашэнні і законнасць гвалтоўных дзеянняў міліцыі, бо такім чынам яны могуць нанесці ўрон усёй праваахоўнай і судовай сістэме. Але не абскарджваць рашэнне суда — аўтаматычна прызнаць сябе вінаватым. А я ні ў чым не вінаваты. Гэта міліцыянты на мяне напалі, пабілі, пазбавілі брата, пагоршылі маё здароўе і прынеслі непапраўнае гора сям'і. Спадзяюся, што некалі прыйдзе час, калі справядлівасць па нашай справе з братам адновіцца. Толькі шкада, што ўжо не будзе брата.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Хто спансуе беларускі цуд?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Гандлявалі — весяліліся, падлічылі — праслязіліся». Гэтай прымаўкай можна акрэсліць увесь стан беларускай эканомікі. Іншым разам нават не разумееш, за кошт чаго гэтая дзяржава існуе?**

Нацыянальны статыстычны камітэт працягвае падбіваць вынікі мінулага года. Згодна з імі, адмоўнае сальда знешняга гандлю таварамі ў Беларусі за 2016 год склала 4 млрд 154,2 млн долараў, што значна горш за 2015-ы, калі мы былі «ў мінусе» на 3 млрд 631,1 млн долараў.

Гэта не дзіўна, паколькі ўвесь знешнегандлёвы абарот краіны за 2016 год склаў 50 млрд 985,2 млн долараў (да ўзроўню 2015 года ён знізіўся на 10,5% у бягучых цэнах). Прычым гэты знешнегандлёвы абарот з краінамі ЕАЭС склаў 26 млрд 618,7 млн долараў (з адмоўным сальда ў 4 млрд 112,3 млн). І, у дадатак — тавараабарот з Расіяй, па дадзеных Белстата, за мінулы год склаў 26 млрд 114,2 млн долараў, адмоўнае «расійскае» сальда — 4 млрд 476,6 млн долараў.

Якія з гэтага высновы? Па-першае, не адбываецца ніякай дыверсіфікацыі рынкаў: палова знешняга гандлю Беларусі па ранейшаму прыпадае на Расію. Па-другое, хопіць ужо казаць, што «Расія спансуе Беларусь». Гэта мы, як сведчаць дадзеныя статыстыкі, кормім РФ, набываючы там на 4 мільярды больш, чым атрымліваем адтуль прыбытку.

Па-трэцяе, навошта нам ЕАЭС? Тэарэтычна, акрамя Беларусі і Расіі, у яго ўваходзяць яшчэ Казахстан, Кыргызстан і Арменія. У выніку на тры краіны ў нас прыпадае ўсяго паўмільярды (дакладней, 504,5 млн) долараў тавараабароту. Цікава, калі мы скароцім ЕАЭСаўскіх чыноўнікаў, ці не зэканомім мы тыя ж паўмільярды? Відавочна, што гэтая структура сябе не апраўдвае.

А вось куды нам сапраўды трэба глядзець, дык гэта ў Еўропу. Так, абарот з краінамі ЕС у нас менш за расійскі ўдвая: 11 млрд 175,7 млн долараў. Затое тут мы «ў плюсе» на 167,7 млн долараў, хоць наш экспарт туды і скараціўся на 33,7%. Можа, трэба больш намагацца ў гэтым кірунку? Тым больш, што ў еўрапейцаў не існуе такой структуры, як «Рассельгаснагляд», які не ў апошнюю чаргу і спрыяе нашаму «адмоўнаму сальда з Расіяй». Дый, у адрозненне ад ведамства Данкверта, ніякіх нараканняў па якасці нашыя прадукты ў Еўропе не выклікаюць.

Тым не менш, пра вынікі года рапартуе і Мінфін: прафіцыт рэспубліканскага бюджэту за студзень-снежань 2016 года склаў 0,98 млрд рублёў, або 1,0% да ВУП.

Такім чынам: па знешнім гандлі мы «ў мінусе» на 4 млрд, а бюджэт выкананы з прафіцытам.

«Як такое можа быць?» — запытаецеся вы. Я вам адкажу проста: гэта вы за ўсё заплацілі. Бо бюджэт фармуецца з падаткаў. Менавіта туды трапляе ПДВ (падатак на дададзеную вартасць), падаткі на прыбытак, акцызныя зборы, паступленні ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) і тыя самыя даходы ад знешнеэканамічнай дзейнасці.

А зараз сачыце за рукамі. Самы вялікі напаўняльнік бюджэту — ФСАН, 10,7 млрд рублёў. Потым ідзе ПДВ — 7,7 млрд. Знешнеэканамічная дзейнасць — 3,1 млрд, акцызы — 2 млрд, 1,9 млрд — падатак на прыбытак.

Такім чынам, праз крамы (акцызы плюс ПДВ) народ заплаціў у бюджэт 9,7 млрд рублёў, што супастаўна з ФЗСН.

І нейкія асобы ва ўрадзе яшчэ маюць нахабства абвяшчаць беларусаў «дармаедамі»? Проста набываючы ў краме тавары народ праспансаваў каля 40% рэспубліканскага бюджэту! Дык хто тут не плаціць падаткі і не ўдзельнічае ў фінансаванні дзяржаўных выдаткаў? Як паказваюць лічбы, каб дасылаць у тых варунках «лісты шчасця» з падаткамі на дармаедства — трэба зусім сумлення не мець.

> **9,7 млрд рублёў беларусы праз крамы (акцызы плюс ПДВ) заплацілі ў бюджэт краіны. Хто з гэтых людзей дармаед?**

Пры гэтым варта зазначыць, што народ падтрымлівае дзяржаву не ў самы лепшы час. І не агульны «не лепшы час», а асабісты. Партал tut.by вывучыў дадзеныя Белстата па продажы асобных харчовых тавараў арганізацыямі гандлю Рэспублікі Беларусь у 2016 годзе, каб даведацца, як змяніўся спажывецкі кошык беларусаў.

Для таго, каб падтрымаць дзяржаву, народ ахвяруе здароўем, ужываючы менш карыснай ежы. Прыкметней за ўсё скараціліся продажы рыбы і морапрадуктаў — амаль на 15%, а таксама на кансерваў, ікры і яе заменнікаў — амаль 13%. Варта зазначыць, што рыба і рыбныя прэсервы знаходзяцца ў топе самых падаражэлых за мінулы год прадуктаў (+23%).

Продаж мяса скараціўся нязначна (на 1,5%), але эканомісць мы пачалі менавіта на чыстым мясе і птушцы — продаж кансерваў і субпрадуктаў не на шмат, але павялічыўся. На 2–5% у 2016 годзе ўпалі продажы сыроў, сметанковага масла і яек. У мінулым годзе беларусы куплялі менш садавіны і арэхаў, чым у 2015 годзе, але больш (на 7%) гародніны і грыбоў. Амаль на 35% павялічылася спажыванне бульбы, значна выраслі продажы аўсянкі — амаль на 20% (грэчка «страціла» 3%). На тыя ж 3% вырас попыт на муку і амаль на 2% — на макаронныя вырабы.

Такім чынам, мы сталі есці менш мяса, рыбы і садавіны, але больш бульбы, крупаў і кансерваў. І, што насцярожвае, продажы сокаў таксама зменшыліся на чвэрць.

Наўрад ці такую «дыету» можна лічыць здаровай для краіны.

І не дзіва, што людзі абураюцца, калі дзяржава ставіцца да іх неналежным чынам. Супраць падатку на дармаедства толькі ў інтэрнэце на сайце zvarot.by падпісалася ўжо каля 23 000 чалавек (збор подпісаў працягваецца). «У першыя суткі, калі мы толькі ініцыявалі збор подпісаў, у нас «лёг» сайт. Гэта адбылося з-за велізарнай колькасці жадаючых падпісаць зварот — сайт проста не вытрымаў наплыву наведвальнікаў. У наступныя дні мы дадавалі па 1–1,5 тысячы подпісаў штодня. Гэта велізарная актыўнасць людзей, якія раней ніколі не фіксавалася», — канстатуе прадстаўнік Беларускага прафсаюзу радыёэлектроннай прамысловасці Андрэй Стрыжак.

Па словах арганізатараў кампаніі, за два тыдні публікацыі, прысвечаныя праблеме «дармаедаў», на старонцы прафсаюза ў Фэйсбуку ўбачылі каля 420 тысяч чалавек, на сайты і пляцоўку, дзе праходзіць збор подпісаў, зайшлі яшчэ каля 120 тысяч.

Інтэрнэтная актыўнасць, праўда, пакуль не выліваецца на вуліцы, але посвісты буры ўжо чуваць і ў рэале. Адна са змен вагоннага дэпо «Брэсцкага аддзялення Беларускай чыгункі» днямі правяла папераджальны страйк, перадае «Радыё Рацыя». Людзі незадаволеныя змяншэннем заробкаў, зарплату зрэзалі на 50 рублёў і не далі прэмію. І, да таго ж, працоўных прымушаюць пісаць заявы на адпачынак без аплаты. Пратэставалі таксама работнікі лакаматыўнага дэпо, калі іх прымушалі пісаць заявы за свой кошт на сацыяльны адпачынак.

За ўсё тое, што народ робіць для дзяржавы, улада павінна яго на руках насіць. Інакш уладзе той прыйдзецца несалодка.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Зміцер Дашкевіч

**Лідару маладафронтаўцаў невядомы чалавек ахвяраваў грошы на канфіскаваны аўтамабіль.**

«Невядомы чалавек пакінуў на Управе Партыі БНФ дзве тысячы долараў і пайшоў сабе па справах. Я думаў, што ў Беларусі даўно ўжо няма такіх бізнесменаў, якія гатовы такія грошы ахвяраваць змагарам, але вось вам, калі ласка… Пры тым, што я ні да каго не звяртаўся і не прасіў дапамогі, дзясяткі людзей за гэтыя пару дзён напісалі з прапановаю дапамагчы! Некалькі чалавек прапанавалі браць іхнія машыны і катацца, колькі спатрэбіцца. Адзін хрысціянін настойвае, каб я забраў адну з дзвюх ягоных машын у якасці падарунка. Скажу вам, сябры, праўду — я ніколі не сутыкаўся з такой падтрымкай! Дзякуй кожнаму добраму сэрцу за падтрымку, малітвы, дапамогу!» — напісаў Дашкевіч у Фэйсбуку.

Як адзначыў Дашкевіч, дзякуючы дабрачынным ахвяраванням была сплочана большая частка штрафаў. «Яшчэ частку новых пратаколаў і 10% прыставовага навару я сплачу з ахвяраваных грошаў і выкраду машынку з лапаў судовых дармаедаў», — піша ён.

«Стойце трывала, пашырайце ідэі Беларушчыны — і знойдуцца людзі, якія падтрымаюць вас і вашу працу. І гэтых людзей будзе значна больш, чым не толькі нашы ворагі, але і мы самі можам уявіць. Прынамсі, я не ведаю ніводнага чалавека, які за свае кроўныя плаціў бы штрафы, без падтрымкі заставаўся б у супрацьстаянні са злачынцамі. Заўсёды будзе падтрымка, заўсёды будзе дапамога — Госпад натхняе на гэта многія і многія сэрцы, значна болей, чым мы нават можам сабе ўявіць», — зазначае Дашкевіч.

## Андрэй Шорац

**Мэр Мінска, наўмысна або не, але сёння з'яўляецца ці не лідарам па аптымізацыі і скарачэнні бюракратычнага апарату.**



Днямі Мінгарвыканкам пакінула яго намесніца Жана Бірыч. Паводле інфармаваных крыніц, яна пераходзіць на пасаду намесніка дырэктара дэпартамента антыманапольнага рэгулявання Еўразійскай эканамічнай камісіі і з'язджае на працу ў Маскву.

Такім чынам, Бірыч стала ўжо трэцім намеснікам, якога Андрэй Шорац страціў за паўтара месяца. 15 снежня 2016 года Ігар Карпенка з намесніка мэра стаў міністрам адукацыі, а Уладзімір Кухараў з той жа пасады перайшоў у намеснікі старшыні Камітэта дзяржкантролю. На сёння ў сталічнага кіраўніка застаюцца толькі два намеснікі — Андрэй Дамарацкі і Віктар Лапцеў.

Калі Шорац новых намеснікаў не займее, то ён сапраўды стане ці не галоўным «дэбюракратызатарам» краіны.



## Уладзімір Пяценка

**Віцэ-чэмпіён Украіны стаў трэнерам знакамітага футбольнага клубу «Крумкачы».**

Да яго прызначэння «Крумкачы» былі адзінай камандай вышэйшай лігі, якая рыхтавалася да сезону без трэнера.

Уладзімір Пяценка нарадзіўся ў 1974 годзе ў Кемераўскай вобласці, але практычна ўсё жыццё і футбольную кар'еру правёў ва Украіне. У яго працоўнай кніжцы — керчанскі «Акіян», «Таўрыя», данецкі «Шахцёр», «Металіст», «Ворскла» і вінніцкая «Ніва».

Пяценка быў срэбным прызёрам першынства Украіны ў складзе «Шахцёра», разам з «Таўрыяй» дайшоў да 1/16 фіналу Кубка Чэмпіёнаў у 1992 годзе. Практычна ўсё яго трэнерства прыпадае на «Металург», дзе ён апынуўся ў 2008 годзе. Пры ім клуб заняў 7 месца ў чэмпіянаце і выйшаў у фінал Кубка Украіны, дзе саступіў данецкаму «Шахцёру».

У апошні раз Пяценка ўзначаліў «Металург» у 2014-м. З-за канфлікту ва Усходняй Украіне «Металургу» давялося пакінуць Данецк. У выніку ў 2015-м клуб распаўся.

Пяценка любіць атакуючы футбол, часцей надае ўвагу каротказму і сярэдняму пасу. Можа змяняць тактыку пад суперніка. Эмацыйны падчас матчаў. Кажуць, што з ім сумна не будзе.



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

# Долар прынясуць у ахвяру стабільнасці



**З пачаткам новага года Нацыянальны Банк Беларусі распачаў і новую кампанію па дэдаларызацыі эканомікі краіны. «Новы Час» разбіраецца, ці атрымаецца пазбавіцца ад долара ў штодзённым жыцці беларусаў, і якіх захадаў у гэтым кірунку можна чакаць у 2017 годзе.**

## Перастаць думаць у доларах

Празмерна высокая даларызацыя беларускай эканомікі — праблема даўняя і добра вядомая. Невыпадкова ўсе замежнікі — у тым ліку нават расіяне — дзівяцца звычцы беларусаў лічыць усе кошты і зарплаты ў доларах. У доларах жа захоўваюць і зберажэнні. Прычым не толькі «пад матрацамі». Нягледзячы на нашумелы дэкрэт №7 ад 11 лістапада 2015-га (ён зрабіў больш жорсткімі ўмовы банкаўскіх укладаў у валюце і даў палёгку рублёвым укладчыкам), а таксама на значнае паніжэнне ставак па валютных дэпазітах, іх доля ў агульнай структуры банкаўскіх укладаў насельніцтва складае 76,3%.

Галоўны барацьбіт з «доларавым мысленнем» — Нацбанк. Маштабны наступ на пазіцыі іншаземнай валюты Нацбанк пачаў яшчэ ў 2015 годзе — найперш адпусціўшы курс рубля (што дазволіла таксама зберагчы золатавалютныя рэзервы). Як вынік, айчынныя працадаўцы ў большасці адвязалі зарплаты ад долара, каб застрахаваць сябе ва ўмовах рэзкіх ваганняў курсу. Працаўнікі асабліва абурацца не сталі: на двары ўжо быў крызіс, падзенне заробкаў і нарастаючае беспрацоўе.

Адначасова рэгулятар пацвердзіў сваю адмову вырашаць праблемы ў эканоміцы праз уключэнне друкарскага станка і пачаў сур'ёзнае змаганне з інфляцыяй. Гэта таксама дало свой эфект: афіцыйная інфляцыя за год вырасла толькі на 10,6%, чаго не здаралася вельмі даўно. У красавіку 2016-га высілкі НБРБ падтрымаў асабіста Аляксандр Лукашэнка, які запатрабаваў максімальна адмовіцца ад долара ў разліках, пачаць думаць у катэгорыі беларускага рубля. «Дэдаларызацыя немагчымая без змены свядомасці людзей. А мы звыклі ўсё ў доларах лічыць», — заявіў ён.

Але ў народнай памяці ўсё роўна жывыя маштабныя дэвальвацыі 2009 і 2011 гадоў, якія толькі падмацоўвалі дзесяцігоддзямі сфармаваную звычку не верыць уладам. І Лукашэнка тут, мусіць, сам таго не ўсведамляючы, падыграў «доларавому менталітэту», заявіўшы ў лістападзе пра неабходнасць давесці сярэднюю зарплату да 500 «зялёных». «500 долараў у будучым годзе — сярэдняя зарплата. Пры ўсіх складанасцях, чаго б гэта ні каштавала», — настойваў кіраўнік краіны. То бок не тысячу рублёў паабяцаў, а менавіта ў доларах лічбу агучыў. Таму не варта дзівіцца, што практычна ўсё — прыбыткі, стаўкі дэпазітаў, зарплатныя арыенціры, кошты на нерухомасць, аўтамабілі, тэхніку і паездкі за мяжу — беларусы працягваюць звыкла намінаваць у доларах.

## Меркаванні экспертаў

«Жаданне дэдаларызаваць эканоміку — безумоўна правільнае. Дарэчы, калі кажуць пра даларызацыю эканомікі, то пад гэтым разумеюць на самай справе цэлы шэраг розных працэсаў і з'яў, — патлумачыў НЧ старшы аналітык фінансавай кампаніі «Альпары» Вадзім Іосуб. — Па-першае, даларызацыя можа выяўляцца ў разліках амерыканскай валютай. Можна прыгадаць, як гадоў 10–15 таму мы і ў побыце, і на рынках расплачваліся наяўнай валютай. Сёння гэта практычна выкаранена. Іншая праява даларызацыі — разлік коштаў і тарыфаў у замежнай валюце або іх цвёрдая прывязка да валюты. Напрыклад, арэнда памяшканняў, змешчаных у дзяржаўнай уласнасці, дагэтуль разлічваецца ў еўра — хоць і аплачваецца ў беларускіх рублях. Даларызацыя — тое, што менавіта ў валюце людзі пераважна захоўваюць свае зберажэнні. Не забываем і пра псіхалагічны фактар — звычку ўсё вымяраць у доларах. Ад гэтай звычкі насельніцтва паступова адвучваецца, чаму паспрыяла дэнамінацыя. Зараз нічога не замінае кватэры і машыны ацэньваць у беларускіх рублях, ужо не трэба лічыць мільярды».

> **Што датычыцца псіхалагічнага даверу да беларускага рубля, то ніякімі адміністрацыйнымі метадамі яго дамагчыся немагчыма. Для гэтага патрэбныя гады стабільнасці на валютным рынку і паслядоўнае паніжэнне інфляцыі**

Па словах эксперта, сёння разлікі ўнутры эканомікі ў валюце ўжо практычна цалкам ліквідаваныя. Прыбрана намінаванне шмат якіх коштаў і тарыфаў у валюце — напрыклад, на аўтазапраўках. Застаюцца ў валюце разлікі за арэнду, збор з замежнікаў за карыстанне платнымі дарогамі, — але ўрад і Нацбанк плануюць хуткім часам і ад гэтага адмовіцца.

Калі глядзець, што ў плане дэдаларызацыі можа быць зроблена ў 2017 годзе, то гэта першым чынам канчатковая адмова ад намінавання тарыфаў у замежнай валюце. Магчымыя дзеянні, накіраваныя на паніжэнне долі валюты ў банкаўскіх дэпазітах грамадзян. Напрыклад, цяпер Нацбанк здзяйсняе пэўныя захады, у выніку якіх і без таго невысокія стаўкі па валютных дэпазітах яшчэ больш знізяцца. Гэта зробіць валютныя дэпазіты менш прывабнымі — тады можна чакаць некаторы ператок з валютных дэпазітаў у рублёвыя.

«Што ж датычыцца псіхалагічнага даверу да беларускага рубля, то ніякімі адміністрацыйнымі метадамі яго дамагчыся нельга. Для гэтага патрэбныя гады стабільнасці на валютным рынку і паслядоўнае паніжэнне інфляцыі. Тады вельмі павольна, але давер да беларускага рубля будзе расці, — гаворыць Вадзім Іосуб. — Дарэчы, калі планы «ўсім па 500» будуць рэалізаваныя, гэта выльецца ў скачок інфляцыі, скачок дэвальвацыі, і давер да нацыянальнай валюты давядзецца аднаўляць з нуля».

У сваю чаргу, кандыдат эканамічных навук, дацэнт Леанід Злотнікаў насцярожана ставіцца да планаў уладаў і баіцца непрадказальных дзеянняў, у тым ліку і ў дачыненні да долара. «Тут толькі тэндэнцыі можна адгадаць. Усё залежыць ад паводзін урада і кіраўніка дзяржавы. Цяпер мы маем значнае паніжэнне ўзроўню жыцця. Як у гэтай сітуацыі павядзе сябе ўрад — цяжка сказаць. Можа быць крайні выпадак, калі валюта будзе замарожаная на ўкладах на некалькі гадоў, — гэта значыць, нельга будзе яе здымаць. Іншая сітуацыя — калі будзе дэфолт сістэмы, банкаўскі крызіс, верагоднасць чаго таксама ёсць. Вядома, тады будзе паніка і валютны курс вырасце, — кажа Злотнікаў. — Можа, усё будзе стабільна, але не будзе вонкавых запазычванняў — а абавязкі трэба будзе аддаваць. У гэтым выпадку валютны курс таксама вырасце, нават калі не будзе дэфолту. Могуць і валюту адбіраць. Калі ж урад пачне выконваць патрабаванні крэдытораў з Захаду і Усходу, то сюды прыйдуць інвестыцыі, валюта, і гэта будзе ўжо іншая сітуацыя. Але цяпер насельніцтва не імкнецца скупляць долары — наадварот, яно іх прадае. І працягне прадаваць у 2017 годзе».

## Планы Нацбанка

Тым часам Нацыянальны банк падыходзіць да пытання дэдаларызацыі эканомікі сістэмна. Якія менавіта захады будуць прынятыя ў найбліжэйшай будучыні, можна даведацца з артыкула ў «Банкаўскім весніку», аўтары якога — намеснік дырэктара Цэнтра інтэграцыйных даследаванняў Еўразійскага банка развіцця Міхаіл Дземідзенка, эканаміст ЕАБР Аляксей Кузняцоў і Наталля Мірончык. Яны апісваюць тры ўзроўні захадаў па скарачэнні даларызацыі эканомікі. Першачарговыя павінны змяніць макраэканамічнае асяроддзе, меры другога ўзроўню — пасіўныя, накіраваныя на фармаванне спрыяльнага фінансавага рынкавага асяроддзя. Трэці ўзровень — актыўныя меры, задача якіх — уздзейнічаць на пэўныя сегменты рынка, а таксама на правілы ўсталявання коштаў на тавары.

Пры гэтым аўтары артыкула ўскладаюць надзеі не на замежныя крэдыты, а на прыход у Беларусь шчодрых інвестараў. «Датычна рашэння задачы па нарошчванні ліквіднасці ў замежнай валюце будзе разумным задзейнічаць у большай меры канал прамых замежных інвестыцый, а не знешніх запазычванняў, якія схільныя ўзмацняць рызыкі захавання высокага ўзроўню даларызацыі», — пішуць Дземідзенка, Кузняцоў і Мірончык.

Таксама дапамагчы дэдаларызацыі павінны мерапрыемствы Нацбанка па лібералізацыі валютных адносін і паніжэнню нормы абавязковага продажу валютнай выручкі (апошняе, дарэчы, ужо адбылося). Сярод іншых магчымых захадаў — адмена прэферэнцый для валютных дэпазітаў; збіранне з іх падатку на прыбыткі з працэнтаў незалежна ад тэрміна. Яшчэ адзін варыянт — распаўсюджванне сістэмы гарантаванага пакрыцця ўкладаў толькі для ўкладаў у нацыянальнай валюце. Нагадаю, што сёння ў Беларусі дзейнічае сістэма 100-працэнтнага страхавання банкаўскіх укладаў грамадзян у любой валюце.

Аднак пакуль — ва ўмовах дэфіцыту бюджэту — рэгулятар змушаны паступацца ўласнымі прынцыпамі. Як было нядаўна абвешчана, Нацыянальны банк Беларусі плануе ў I квартале размясціць аблігацыі, намінаваныя ў замежнай валюце, на суму $600 мільёнаў. Першы аўкцыён па размяшчэнні валютных аблігацый НБРБ будзе праведзены 26 студзеня ў аб'ёме $150 мільёнаў.

Заканчэнне. Пачатак у №3

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Пасля прапановы Леаніда Прывалава правесці працэдуру даверу старшыні Вярхоўнага Савета Дзмітрый Булахаў сказаў, што калі большасць выкажа недавер Шушкевічу, дык у таго застанецца маральнае права: сыходзіць ці не.**

# Вялікая памылка Станіслава Шушкевіча



**Станіслаў Шушкевіч, Біл Клінтан і Вячаслаў Кебіч падчас ускладання вянкоў да Манумента Перамогі, 15 студзеня 1994 года, Мінск.**
Фота: 90s.by

У адказ Шушкевіч заявіў, што калі б зрабіў такі ўчынак, як Булахаў, дык сам бы сышоў у адстаўку. Гаворка ішла пра 7 студзеня 1993 года, калі Булахаў, знаходзячыся за стырном службовага аўтамабіля, на магілёўскай трасе насмерць збіў жанчыну. І хаця дзякуючы дэпутацкаму мандату Булахаў пазбег адказнасці, тым не менш яго палітычныя пазіцыі вельмі моцна пахіснуліся: у бліжэйшай перспектыве яго вылучэнне на высокія пасады было немагчыма. А калі Шушкевіч назваў учынак Булахава забойствам, дык выклікаў з боку парламенцкай большасці шквал крытыкі.

1 ліпеня 1993 года ініцыятыва Леаніда Прывалава была задаволеная пры мінімальнай — 177 дэпутатаў «за» (кворум — 174 чалавекі) — перавазе.

Для арганізацыі і правядзення працэдуры даверу была створана Падлікова камісія ў складзе сямі чалавек на чале з дэпутатам Міхаілам Удавіковым. У камісію ўвайшлі два прадстаўнікі апазіцыі БНФ — Ігар Германчук і Аляксандр Шут. Бюлетэнь для тайнага галасавання меў наступнае пытанне: «Вы давяраеце старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевічу? Так? Не?».

Вынікі галасавання 1 ліпеня 1993 года аказаліся несправыльнымі для Шушкевіча: недавер яму выказалі 166 дэпутатаў (з 204 раздадзеных бюлетэняў у скрыні для галасавання апынуўся 201 бюлетэнь, з іх 8 былі прызнаны несапраўднымі), а давер — толькі 27.

Станіславу Шушкевічу пашанцавала ў тым, што выніковы пратакол Падліковай камісіі не быў зацверджаны (Ігар Германчук і Аляксандр Шут адмовіліся падпісаць яго; Віктар Ганчар падпісаў з агаворкай). 2 ліпеня 1993 года за зацвярджэнне пратакола прагаласавалі 170 дэпутатаў: не хапіла чатырох галасоў для неабходнага кворуму.

Аднак пра тое, што парламенцкая большасць была супраць Шушкевіча, сведчыла яе нечаканае ўключэнне у парадак дня пытанне аб рэферэндуме («Ці падтрымліваеце Вы нейтралітэт Рэспубліки Беларусь, які прадугледжвае яе няўдзел у любых ваенна-палітычных саюзах?»). 7 ліпеня 1993 года за гэта прагаласавалі толькі 159 дэпутатаў.

У той жа дзень у афіцыйнай заяве парламенцкая апазіцыя БНФ у асобе свайго прадстаўніка Юрыя Беленькага папярэдзіла Шушкевіча аб тым, што калі ён і далей будзе прытрымлівацца беспрынцыповага згодніцтва з кансерватыўна-наменклатурнай большасцю Вярхоўнага Савета, дык пазбавіцца падтрымкі.

### Спроба другая і апошняя

Парламенцкая большасць не губляла надзеі зняць Шушкевіча. Найбольш спрыяльныя ўмовы ўтварыліся падчас трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета, якая пачала сваю працу 9 лістапада 1993 года. Абвастралася эканамічная сітуацыя, што дазваляла парламенцкай большасці пераводзіць усе стрэлы на Шушкевіча як на першую асобу дзяржавы.

Таксама парламенцкай большасці прыйшлася недаспадобы рашучая падтрымка Шушкевічам Барыса Ельцына ў змаганні расійскага прэзідэнта з Вярхоўным Саветам у верасні-кастрычніку 1993 года. Яўна ў тупік зайшла праца над Канстытуцыяй. Адсутнасць Шушкевіча (які раптоўна накіраваўся ва Узбекістан) падчас агучвання Аляксандрам Лукашэнкам выніковага даклада працы часовай камісіі па вывучэнні дзейнасці камерцыйных структураў, якія дзейнічаюць пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання, 14 снежня 1993-га таксама настроіла супраць старшыні парламенцкую большасць яшчэ мацней.

Сыход Шушкевіча быў выгадны для Вячаслава Кебіча, які ўжо прыглядаўся да прэзідэнцкага крэсла, і для маладых дэпутатаў. Апошнія праз Канстытуцыю, якая павінна была ўвесці прэзідэнцкую пасаду, спадзяваліся шляхам выбараў прыйсці да ўлады. Абодва бакі лічылі Шушкевіча перашкодай на шляху да новай Канстытуцыі.

Такім чынам, усе фактары былі супраць Шушкевіча. Трэба была толькі новая нагода для атакі. І яна з'явілася 15 студзеня 1994 года, калі літоўскія спецслужбы фактычна таемна вывезлі з тэрыторыі Беларусі двух былых кіраўнікоў кампартыі Літвы Міколаса Буракявічуса і Ёзаса Ермалавічуса, якія абвінавачваліся ў крывавых падзеях у Вільнюсе 13 студзеня 1991 года.

У Вярхоўным Савеце распачаўся палітычны скандал. 25



**Станіслаў Шушкевіч на пікеце супраць рэферэндуму аб змене Канстытуцыі, 16 лістапада 1996 года.**
Фота: 90s.by

студзеня 1994-га ад сваіх пасадаў былі адхілены міністр унутраных спраў Уладзімір Ягораў і шэф КДБ Эдуард Шыркоўскі.

Для Шушкевіча ж ракавым аказалася 26 студзеня 1994 года. У гэты дзень пры абмеркаванні праекта пастановы аб дакладзе часовай камісіі Лукашэнкі апошняму ўдалося дамагчыся таго, што ў праект быў уключаны наступны пункт: «У сувязі з непрыняццем мер па барацьбе з карупцыяй, адсутнасцю кантролю за працай праваахоўных органаў і праяўленую асабістую нясціплаць: уключыць у парадак дня чарговай трынаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пытанне аб адкліканні старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Шушкевіча С.С. і вызваленні ад займаемай пасады старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Кебіча В.Ф.».

Лукашэнка абвінаваціў яго, па-першае, у незаконным выдзяленні 200 гектараў зямлі пад Мінскам для будаўніцтва індустрыяльнай зоны: нібыта Вярхоўны Савет адмовіў у выдзяленні, але Прэзідыум пад ціскам Шушкевіча ўсё ж даў дабро на зямлю.

Па-другое, як сцвярджаў Лукашэнка, са студзеня 1992-га па кастрычнік 1993 года Шушкевіч карыстаўся паслугамі рамонтна-будаўнічага ўпраўлення Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Савета Міністраў для рамонту ўласных кватэры і лецішча, афарміўшы 15 дамоваў. Аднак Шушкевіч аплаціў усе дамовы, і тады Лукашэнка вымушаны быў заявіць, што Шушкевіч увогуле не меў права карыстацца паслугамі рамонтна-будаўнічага ўпраўлення: яно абслугоўвае толькі адміністратыўныя будынкі.

Па-трэцяе, Лукашэнка абрынуўся на Шушкевіча за арганізацыю візіту кіраўніка ЗША Біла Клінтана ў Мінск: гэты візіт, быццам бы, прынізіў суверэнітэт краіны.

Калі б прапанова Лукашэнкі аб адкліканні Шушкевіча не прайшла, старшыні ўсё роўна прыйшлося б прайсці праз гэта. Была прыгатавана цяжкая артылерыя ў выглядзе праекта пастановы аб вызваленні Шушкевіча ад пасады, падпісанага сотняй дэпутатаў, пра што заявіў Пётр Пракаповіч.

Віктар Ганчар больш глыбінна раскрыў прычыны такіх адносін да Шушкевіча: «Станислав Станиславович, неужели Вы думаете, что мы ставим вопрос об отзыве на основании двух килограммов гвоздей, которые вы неправильно оформили? Если Вы хотите свести счеты с Лукашенко, то обратитесь в суд. Вы не состоялись как высшее должностное лицо, дезорганизовали работу Верховного Совета».

Перад пачаткам галасавання Шушкевіч зрабіў вельмі грунтоўны даклад аб сітуацыі ў краіне. У канцы прамовы Шушкевіч заклікаў шукаць кампраміс і хутчэй прымаць новую Канстытуцыю.

Вынікі галасавання, якія агучыла спецыяльная камісія на чале з Іванам Бамбізам, былі наступныя: з раздадзеных 290 бюлетэняў у скрынцы апынуліся 250, з іх несапраўднымі прызналі пяць бюлетэняў; за адкліканне Шушкевіча налічылі 209 бюлетэняў, супраць — 36 (Вячаслаў Кебіч, супраць якога выказаўся 101 дэпутат, утрымаўся на пасадзе).

Апазіцыя негатыўна паставілася да адклікання Шушкевіча. Зянон Пазняк і Валянцін Голубеў зрабілі заяву аб «паўзучым вярхушачна-камуністычным перавароце». У сваю чаргу, маладыя дэпутаты паспяшаліся зрабіць заяву пра тое, што не былі зброяй супраць Шушкевіча ў чужых руках. У прыватнасці, Лукашэнка 28 студзеня 1994 года казаў наступнае: «Если кто-то полагал, что Лукашенко нужен был для того, чтобы пробить дыру в железобетонной стене, то я должен сказать: лоб расшибет тот, кто так думает».

Пэўная частка насельніцтва выказалася супраць адклікання Станіслава Шушкевіча. У асабістым фондзе (№599) былога старшыні Вярхоўнага Савета ў Нацыянальным архіве захаваліся дзясяткі тэлеграмаў і лістоў у падтрымку Шушкевіча. Можна працытаваць некаторыя з іх.

Тэлеграма Уладзіміра Краўчанкі ад 26 студзеня 1994 г.: «Станислав Станиславович, не сдавайтесь! Вы еще будете нашим президентом». «Отзывом Шушкевича вы покрыли себя позором, раскрыли свое подлинное лицо коммуняк. С презрением к вашему агрессивно-жириновскому большинству» (беларус Сяргей Яскевіч, 27 студзеня 1994 г.).

«Пусть Лукашенко приедет в Несвиж и увидит, кто и какие строит коттеджи. И нечего было обливать грязью порядочного человека Шушкевича» (пенсіянерка з Нясвіжу Рамуальда Зенькевіч, 27 студзеня 1994 г.). «Мы не для того избрали Лукашенко, чтобы он занимался сплетнями и сводил счеты с Шушкевичем. Выйдем на митинг с протестом против Лукашенко и в защиту Шушкевича» (Вера Цярлюкевіч, г. Мінск, 27 студзеня 1994 г.)

Такім чынам, адстаўка Шушкевіча, з аднаго боку, была абумоўлена тым, што напрыканцы паўнамоцтваў Вярхоўным Саветам авалодалі кансерватыўныя тэндэнцыі. З другога боку, сам Шушкевіч павінен быў пралічыць любыя варыянты, ажно да стварэння ўласнай дэпутацкай групоўкі накшталт апазіцыі БНФ альбо праўрадавай фракцыі «Беларусь», якую кантраляваў Вячаслаў Кебіч.

Адстаўка Шушкевіча прадэманстравала і іншы бок медаля. Яна сведчыла, што нават у пракамуністычным Вярхоўным Савеце мела месца павага да законнасці і легальнай змены ўлады, таму сцвярджэнні апазіцыі БНФ ад перавароце 26 студзеня 1994 года падаюцца залішнімі.

Галоўнае палітычнае наступства адклікання Шушкевіча заключалася ў тым, што была рэзка актывізавана праца над новай Канстытуцыяй. Яе зацвярджэнне 15 сакавіка 1994 года адкрыла новую старонку ў гісторыі найноўшай Беларусі.






**Ад рэдакцыі:**
Леанід Лыч і Мікалай Савіцкі звярнуліся да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў з гэтым лістом яшчэ ў кастрычніку мінулага года. Дасылалі «Слова...» і ў «Звязду» як орган Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Прапануем тэкст гэтага звароту з невялікімі скарачэннямі.

# Слова да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў шостага склікання

*Леанід ЛЫЧ,*
*Мікалай САВІЦКІ*

Дэпутат! Хто ён такі? Вядома ж, чалавек свой, ці, як казаў Янка Купала, —«тутэйшы». Дэпутат ёсць тэрмін лацінскі, «deputatus» — «пасланы». То бок асоба, якая выбрана групай грамадзян у заканадаўчую і прадстаўнічую ўладу. У абавязак дэпутата ўваходзіць прадстаўляць інтарэсы грамадзян-выбарцаў ва ўладных структурах, абарона іх правоў, замацаваных у законах.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Беларусі павінен разумець, адчуваць розумам і сэрцам, што ён прадстаўнік усяго беларускага народа, а не толькі сваёй акругі. Пасланцы ў парламент павінны памятаць, што выбарцы дэлегавалі ім не толькі адчувальныя прывілеі, якія ў сацыяльным жыцці адрываюць іх ад народа, але і глыбока ўсведамляць гістарычную адказнасць за лёс Бацькаўшчыны.

Звярнуцца да дэпутатаў мы вырашылі, каб разам засяродзіць увагу на праблемах, што, не баймся памыліцца, уяўляюць сабой найстрашнейшую бяду для ўсёй беларускай нацыі. Гэта няўхільная страта ёю сваёй этнічнай ідэнтычнасці, што немінуча прывядзе нашу краіну і да страты дзяржаўнага суверэнітэту. Як ні парадаксальна, але ў гэтым трагізме больш за ўсё вінаватыя самі ўлады.

Ужо не першы год мы з'яўляемся сведкамі, як на самым высокім дзяржаўным узроўні поўнай хадою ідзе разбурэнне нацыянальнай сістэмы адукацыі, правальваюцца ў непралазную багну нацыянальныя інстытуцыі, духоўныя каштоўнасці. Фактычна, беларускі народ цалкам ізаляваны ад сваіх нічым не заменных нацыянальных духоўных скарбаў: базавай для краіны роднай мовы і культуры, не абазнаны ў айчынай гісторыі. А гэта ж акурат і ёсць ахоўны ку-




**Леанід Лыч:**
**«Беларускі народ цалкам ізаляваны ад сваіх нацыянальных духоўных скарбаў»**

пал над суверэннай Рэспублікай Беларусь.

Калі не заўтра, а ўжо сёння не спыніць гэтую накінутую беларускаму народу нацыянальную катастрофу, дык вось-вось краіне стануць непатрэбнымі ні яе прэзідэнт, ні яе ўсіх катэгорый дэпутаты. Не заўважаць і не разумець гэтага, а тым больш не рабіць ніякіх дзейсных выратавальных захадаў, прабачце, ёсць нешта іншае, як нацыянальная здрада.

Шаноўныя абраннікі народа! Не дапусціце, каб вы сталі маўклівымі, бяздзейнымі сведкамі этнічнага вымірання дзяржаўнага народа краіны — беларусаў, паказвайце сваім выбарцам, што вы самавітыя, годныя і здольныя спыніць культурную, духоўную дэградацыю беларусаў з-за ўпартага навязвання ім чужых культурна-моўных стандартаў. Спыніце «мірную» спробу адабраць у беларусаў права на сваю нацыянальна-моўную культуру і дзяржаўны суверэнітэт. Акіян сусветнай культуры жывіцца рэкамі і рачулкамі нацыянальных культур. Дык ці ж не павінна ў яго ўпадаць і адметная, непаўторная беларускамоўная культура?

У нас вельмі многа і няспынна вядзецца гаворка пра эканамічнае становішча. І яно таго заслугоўвае. Але час зразумець: пакуль наша краіна будзе карумпаваная, асабліва ў самых высокіх уладных структурах, пакуль у ёй будзе самая высокая ў свеце ўдзельная вага дзяржаўных чыноўнікаў, супрацоўнікаў спецслужбаў у агульнай колькасці насельніцтва, пакуль вялізныя сумы бюджэтных сродкаў будуць выдаткоўвацца на задавальненне прагных да роскашы занятых у гэтых структурах людзей, Беларусі не быць дзяржавай сацыяльнай накіраванасці. Вось чаму, як веснавы снег, стабільна з года ў год растаюць, не выконваюцца ў нас сацыяльныя праграмы.

Праблема сацыяльна-эканамічнага становішча знаходзілася і знаходзіцца ў цэнтры ўвагі кіраўніцтва краіны. Ёй займаюцца дзясяткі міністэрстваў і ведамстваў, сотні рознага роду гаспадарча-вытворчых падраздзяленняў. А справа слаба рухаецца наперад. Усім кіраўнікам хацелася б парэкамендаваць галоўную прычыну нашага незайздроснага сацыяльна-эканамічнага становішча, неўтаймаванай карупцыі шукаць найперш у сур'ёзных непаладках і поўнай дэзарганізацыі этнакультурнага жыцця народа краіны, у яго да апошніх падвалін здэфармаванай нацыянальнай свядомасці.

Этнічна зацюканы ўласнай дзяржавай народ не можа быць актыўным у любой сферы дзейнасці — у тым ліку і сацыяльна-эканамічнай. Хворыя на нацыянальны нігілізм людзі абыякавыя да ўсяго. Іх у аднолькавай ступені не цікавяць ні нацыянальная культура і мова, ні прыгажосць роднай прыроды, ні стан эканомікі краіны. З хворай нацыянальнай свядомасцю чалавек без усялякага роздуму ідзе на здзяйсненне любога злачынства, бо ён не жыве інтарэсамі свайго народа. І гэтага ніколі не дазволіць сабе чалавек, прасякнуты карэннымі, нацыянальнымі інтарэсамі сваёй Бацькаўшчыны.

Калі б нацыянальна свядомыя беларусы ў грамадстве пераважалі, што магчыма толькі пры кардынальных зменах дзяржаўнай культурна-моўнай палітыкі, у краіне была б да мінімуму зведзена карупцыя, сталі б скрайне рэдкімі выпадкі забойства, гвалту, рабаванняў, разводаў, алкагалізму і іншых негатыўных з'яў, што адмоўна адбіваюцца і на сацыяльна-эканамічным развіцці народа.

Таму найстрашнейшай бядой усёй краіны ёсць не эканамічныя цяжкасці, а свядома здзейсненае амаль татальнае вытурэнне беларусаў са сваёй прыроднай нацыянальна-культурнай, моўнай нівы. Не баймся памыліцца ў сваіх падліках: на ёй на рускае даводзіцца не менш як 90 працэнтаў, а на беларускае — жабрацкія 10 працэнтаў. У такіх, выкліканых сур'ёзнымі хібамі дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі, экстрэмальных умовах нельга захаваць беларускі народ ад этнічнага вымірання.

Гэты перакос на карысць рускага пачатку не з'яўляецца вынікам натуральнага нацыянальнага развіцця, як любяць сцвярджаць ідэолагі. Наадварот, у аснове яго ляжыць глыбока, усебакова прадуманая жорсткая дзяржаўная палітыка русіфікацыі беларусаў, якой стагоддзямі займаліся царызм, КПСС і якую сёння мэтанакіравана і выніковa праводзіць чыноўніцкі апарат Рэспублікі Беларусь.

На працягу апошніх больш як 20 гадоў беларуская мова і дня не знаходзілася ў статусе фактычна дзяржаўнай! Па сутнасці, усё кіраўніцтва краіны з дня на дзень парушала і сёння парушае канстытуцыйнае палажэнне аб абавязковым выкарыстанні дзяржаўнай №1 беларускай мовы ў сваёй практычнай дзейнасці. Лічым, што гэта з'яўляецца адным з самых сур'ёзных і небяспечных палітычных злачынстваў.

Сваёй заганнай нацыянальнай палітыкай улады ўжо прывялі беларускую мову на ГАЛГОФУ. Галоўнае, адметнае, самабытнае, самае дарагое багацце дзяржаўнага народа Рэспублікі Беларусь, якое толькі і дае яму права называцца беларусамі, бязлітасна ўкрыжаванае.

Нават у Год культуры мы нічога слушнага, прынцыпова важнага не пачулі ад самага высокага рангу палітыкаў, кіраўнікоў гэтай сферы, інтэлектуалаў пра занядбаны не чужынцамі, а ўласнай "суверэннай" дзяржавай нацыянальны сегмент. А калі яны штосьці і мовяць пра культуру, дык толькі агулам. Да бесканкурэнтнага панавання ў культурнай сферы краіны знадворнага над унутраным прызвычаіліся, і гэтым нават ганарацца некаторыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі. Вось як далёка зайшлі мы ў культурна-моўнай асіміляцыі! Няма такіх пераможцаў, удачнікаў на ўсёй постсавецкай прасторы.

Лічым неабходным давесці дэпутатам, што сучасную Беларусь ужо практычна нельга называць нацыянальнай дзяржавай, а яе народ — нацыяй, паколькі іх жыццё будуецца пераважна на чужых культурна-моўных каштоўнасцях, калі прафесійная дзейнасць вышэйшых дзяржаўных органаў абслугоўваецца не мовай тытульнага народа, а мовай суседняга этнасу, і да таго ж яшчэ здзекліва абвешчанай уладамі роднай і для беларусаў. Дапусціць, каб так ганебна ўлады ставіліся да роднай мовы, не можа аніводная паўнавартасная нацыя. Беларусы дапусцілі — значыцца, не дацягваюць да такой нацыі.

Хочацца верыць, што сярод нанова абраных у Палату прадстаўнікоў 110 дэпутатаў знойдуцца хоць дзве-тры смелыя, цвёрдай нацыянальнай арыен-




**Хворыя на нацыянальны нігілізм людзі абыякавыя да ўсяго. Іх у аднолькавай ступені не цікавяць ні нацыянальная культура і мова, ні прыгажосць роднай прыроды, ні стан эканомікі краіны. З хворай нацыянальнай свядомасцю чалавек без усялякага роздуму ідзе на здзяйсненне любога злачынства, бо ён не жыве інтарэсамі свайго народа**

тацыі асобы, якія не пабаяцца даць бой неадпаведнай карэнным інтарэсам Бацькаўшчыны дзяржаўнай культурна-моўнай палітыцы, паказаць, што апошняя вядзе не толькі да поўнага размывання нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, але і да страты палітычнага суверэнітэту краіны.

Такія адказныя за лёс нацыі асобы абавязкова ўвойдуць у сучасную і вечную гісторыю беларускага народа. Ведайма, што некалі ж былі ў нас палітыкі-патрыёты, гатовыя прыняць нават смерць, каб толькі родны край не стаў здабычай для чужой дзяржавы. Згадаем, напрыклад, гераічны вычын пасла ад Навагрудскага ваяводства Тадэвуша Рэйтана, які супраціўляўся спробам вальнага Сойму Рэчы Паспалітай зацвердзіць здрадніцкі акт аб першым падзеле Рэчы Паспалітай, у выніку якога значная частка беларускай зямлі перайшла царскай Расіі. Дамагчыся такога выніку паслу-патрыёту не ўдалося, і тады ён, каб перашкодзіць сваім калегам пакінуць залу пасяджэнняў, лёг крыжам ля дзвярэй і на ўвесь голас закрычаў: «Забіце мяне, затапчыце, але не забівайце Бацькаўшчыны!».

Сёння нам вельмі патрэбны такія нацыянальныя героі-патрыёты, без якіх нельга разлічваць на поспех нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа, захаванне дзяржаўнага суверэнітэту яго Бацькаўшчыны.

З улікам сённяшняй архінебяспечнай сітуацыі ў нацыянальным жыцці краіны настойліва просім новы склад дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў неадкладна і грунтоўна заняцца развязваннем лёсавызначальнай для нас праблемы нумар адзін — этнакультурнай. Не бачыць нацыянальнай дэградацыі беларусаў з-за іх вымушанага сыходу са сваёй культурна-моўнай нівы на чужую могуць толькі сляпыя ці безнадзейна хворыя на нацыянальны нігілізм людзі. А гэта трэба бачыць, асабліва палітыкам, і неадкладна рэагаваць.

Яшчэ раз звернем увагу адказных асобаў: беларусы не па сваёй волі, а па волі чужых і ўласнага палітычнага рэжымаў сёння ўжо не ўяўляюць сабой самабытную арыгінальную нацыю, бо жывуць не сваімі, а рускімі культурна-моўнымі каштоўнасцямі. І нават робяць істотны ўнёсак у іх стварэнне, папулярызацыю на беларускай зямлі, атрымліваючы за гэта не толькі зарплату, але і ўрадавыя ўзнагароды.



**Мікалай Савіцкі:**
**«Сучасную Беларусь ужо нельга назваць нацыянальнай дзяржавай »**

Спадзявацца, што ў гэтай экстрэмальнай сітуацыі народ сам выкараскаецца з глыбокай асіміляцыйнай ямы, не даводзіцца. Тэрмінова патрэбная адпаведная канструктыўная нацыянальна-культурная, моўная палітыка дзяржавы — калі яна не на словах, а на справе жадае быць суверэннай, мець этнічна самабытны народ, а не адрынуты ад нацыянальнай культуры, роднай мовы натоўп.

Калі ў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ёсць хоць кропля жадання бачыць свой народ менавіта такім, яны павінны не заўтра, а ўжо сёння ў якасці найгалоўнай агульнанацыянальнай праблемы лічыць выратаванне беларусаў ад канчатковай страты сваёй этнакультурнай самабытнасці, бо гэта ёсць галоўны фактар захавання нацыянальнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

**Беларусы не па сваёй волі, а па волі чужых і ўласнага палітычнага рэжымаў не ўяўляюць сабой самабытную нацыю, бо жывуць не сваімі, а рускімі культурна-моўнымі каштоўнасцямі**

З мэтай спынення этнацыду беларускага народа (выключаная з грамадскага жыцця беларуская мова, амаль поўная адсутнасць беларускамоўнай адукацыі і ў значнай ступені нацыянальнай культуры), забеспячэння рэальнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь дэпутатам Палаты прадстаўнікоў неабходна:

а) Аднавіць дзейнасць гістарычных законаў, прынятых дэпутатамі Беларусі (сярод іх колькасна пераважалі камуністы!) да ўсталявання ў ёй прэзідэнцкай сістэмы кіравання: «Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Аб мовах у Беларускай ССР» (26 студзеня 1990 года), «Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб парадку ўвядзення ў дзеянне закона Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР» (26 студзеня 1990 года) і «Закон аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі Беларускай ССР» (26 студзеня 1990 года).

б) Альбо ў бліжэйшы час прыняць новы Закон аб адзінай дзяржаўнай мове — беларускай. У Расійскай Федэрацыі, ва ўсіх створаных на постсавецкай прасторы краінах дзяржаўнай мовай з'яўляецца толькі мова карэннага этнасу. Памятайма: Закон «Аб мовах» у БССР і Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР прынялі вельмі аўтарытэтныя людзі — дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, сярод якіх было нямала і цвёрдых інтэрнацыяналістычных поглядаў камуністаў, занятых на самых высокіх пасадах у ЦК КПБ, Савеце міністраў БССР. Дык будзьце, глыбокапаважаныя абраннікі, годнымі сваіх папярэднікаў!

в) Паважайце сябе і сапраўднага гаспадара нашай зямлі — беларускі народ. Праводзьце пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў на яго роднай беларускай мове — першай дзяржаўнай па дзеючай Канстытуцыі, на мове тытульнай нацыі, як гэта робіцца ва ўсіх краінах, створаных на аскепках СССР.

г) Прыміце заканадаўчы акт аб стварэнні тэлеканала Палаты прадстаўнікоў ці вызначыце (гэта ваша кампетэнцыя) хоць бы гадзіны для трансляцыі пасяджэнняў на існуючых каналах, — каб павысіць аўтарытэт улады, выхаваць у народа любоў да дэпутатаў, а праз вас і да палітычнай сістэмы ў цэлым. З прычыны інфармацыйнай ізаляцыі дзейнасці Палаты прадстаўнікоў народ амаль нічога не ведае пра вас. Не існуе ніякай патрэбы працягваць дэпутацкую дзейнасць «у тумане».

д) Нам, як кісларод, патрэбен салідны навукова-тэарэтычны часопіс, дзе б з пазіцый карэнных беларускіх інтарэсаў рэгулярна асвятляліся надзённыя пытанні нацыянальнага жыцця краіны. Нельга трымаць народ у поўным недасведчанні, што яго чакае пры панаванні ў яго родным доме чужых культурна-моўных каштоўнасцяў. Назва часопіса можа быць (прапанова для разгляду): «Праблемы захавання этнакультурнай самабытнасці беларускай нацыі».

ж) У зносінах з людзьмі неабходна рашуча адрачыся ад неадпаведнага ісціне выразу: «У нас афіцыйнае двухмоўе». На працягу ўсіх гадоў функцыянавання прэзідэнцкай сістэмы кіравання ў афіцыйным жыцці выкарыстоўваецца толькі руская мова. Яе трэба паслядоўна замяняць беларускай, перакананучы тлумачачы, што гэта робіцца дзеля таго, каб народ не страціў нацыянальнага аблічча, быў самім сабой.

з) Не спяшайцеся хутчэй завяршыць працэс палітычнага аб'яднання з Расіяй, да чаго мы зусім не гатовыя ў этнакультурным плане. Нам як мінімум у дзясяткі разоў трэба ўзмацніць нацыянальны патэнцыял жыццядзейнасці беларусаў, трансфармаваўшы ў першую чаргу іх родную беларускую мову з папярова дзяржаўнай у фактычна дзяржаўную.




і) Старшыня Палаты прадстаўнікоў павінен нарэшце пераадолець страх ці нерашучасць і, як трэцяя асоба ў краіне, публічна праз СМІ ўступаць у кантакт з народам на яго роднай беларускай мове па ўсіх надзённых праблемах жыцця, асабліва па тых, якія маюць дачыненне да захавання беларускай культурна-моўнай ідэнтычнасці.

к) Паверце, не можа быць належнага аўтарытэту, высокай павагі да вас пры існым неапраўдана вялікім разрыве паміж зарплатай і пенсіяй дэпутатаў і іх выбарцаў. Як тут быць палітыку — слова за вамі.

Высокашаноўныя дэпутаты! З вялікім жаданнем мы маглі б удзельнічаць з вамі ў распрацоўцы канцэпцыі аб забеспячэнні беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай.

***

Пасля неаднаразовых тэлефанаванняў у рэдакцыю газеты «Звязда» паважаныя прафесары дамагліся адказу: «Шаноўныя Мікалай Іванавіч і Леанід Міхайлавіч. З вялікай увагай прачыталі ваш допіс. Вашы думкі і ідэі, выкладзеныя ў ім, прынятыя рэдакцыяй да ведама, а некаторыя з іх дазволяць пашырыць праблемна-тэматычнае поле ў далейшай рабоце газеты. Вялікі дзякуй за ўвагу да нашага выдання. З павагай, аддзел пісьмаў газеты «Звязда».

На гэтае слова адказаў і старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры і навуцы І.А. Марзалюк: «У Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і навуцы разгледжаны ваш зварот да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў шостага склікання. Дзеля таго, каб усе дэпутаты Палаты прадстаўнікоў мелі магчымасць пазнаёміцца з выкладзенымі ў вашым лісце прапановамі, мы накіравалі яго для азнаямлення ва ўсе пастаянныя камісіі Палаты прадстаўнікоў. Таксама паведамляем, што вашы меркаванні прыняты намі да ўвагі і па магчымасці будуць улічаны ў ходзе работы над праектамі законаў, накіраваных на далейшае ўдасканаленне дзеючага заканадаўства Рэспублікі Беларусь».

Але ў той жа час зараз дэпутаты разглядаюць праект закону «Аб правах спажыўцоў», які не прадугледжвае абавязковага размяшчэння інфармацыі пра тавар на яго ўпакоўцы на беларускай мове... І пакуль што ніхто не ўнёс прапановы пра абавязковую прысутнасць у аздабленні ўпаковак тавараў дзяржаўнай беларускай мовы.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### АБХАЗІЯ. Адраджэнне кроўнай помсты

Уноч на Новы год у Сухумі, як мяркуецца, праз датычнасць да гандлю наркотыкамі быў забіты 26-гадовы Беслан Квіцінія. Падазраваны ў злачынстве Раланд Жыба збег у Грузію, аднак гэта стала толькі пачаткам ланцуга наступных жудасных злачынстваў. Родныя Квіцінія заявілі пра гатоўнасць помсціць, і сваё слова, падаецца, стрымалі. У ноч на 4 студзеня быў спалены дом двух сваякоў падазраванага. Затое праз два дні невядомымі быў забіты сваяк Квіцінія. У выніку ў грамадстве паўсталі дэбаты: ці не пагражае Абхазіі адраджэнне прынцыпу кроўнай варожасці, згодна з якім асоба, якая ўчыніла забойства, альбо хто-небудзь са сваякоў (роду), абавязкова падлягае смерці ў парадку адплаты. Такая помста ў выніку выліваецца ў шматгадовыя канфлікты. На Каўказе, і ў прыватнасці, у Абхазіі, яна была выкараненая толькі ў гады савецкай улады, але цяпер дэманы вендэты вяртаюцца. Тым больш, што Квіцінія і Жыба належаць да двух з трох асноўных абхазскіх кланаў. Каб спыніць працэс кроўнай варожасці на старце, мясцовыя палітолагі заклікаюць склікаць раду аксакалаў, якія прымірыць сем'і.

**Паводле грузінскай прэсы**

### ЗША. Белы дом не гаворыць па-іспанску

Вялікі рэзананс выклікала ў Іспаніі рашэнне Дональда Трампа прыбраць з вэб-старонкі кіраўніка адміністрацыі ЗША іспанамоўную версію. Акцыя сапраўды дзіўная, хаця б таму, што іспанская мова — другая па папулярнасці мова ў Злучаных Штатах. Аднак для Трампа той факт аказаўся не аргументам. Як заявіў прадстаўнік яго адміністрацыі, прэзідэнт сыходзіць з таго, што «ЗША — краіна, дзе размаўляюць па-англійску, а не па-іспанску». Між тым, усе думаюць, што Трамп праз новы дызайн сайту проста жадае замацаваць свой імідж барацьбіта з нелегальнай міграцыяй з Мексікі. Так ці інакш, уся іспанамоўная грамадскасць у свеце нежартоўна абурылася. Адпаведную заяву ўжо зрабіў Інстытут Сервантэса — дзяржаўная ўстанова Іспаніі і вядучы ў свеце інстытут па развіцці іспанскай мовы і распаўсюджванні іспанскай культуры. Адзін з іспанскіх палітыкаў-сацыялістаў паабяцаў у выпадку перамогі сваёй партыі прымусіць Трампа аднавіць іспанамоўную версію сайта Белага дома. Цікава, што негатыўнае стаўленне Трампа супярэчыць настроям сярод рэспубліканцаў. У шэрагах партыі ёсць фракцыя, якая выступае за тое, каб надаць іспанскай мове статус дзяржаўнай у ЗША.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ВЫСПЫ МАРШАЛА. Першая жанчына-прэзідэнт у Акіяніі



На Выспах Маршала, што знаходзяцца ва ўсходняй частцы Ціхага Акіяну, 27 студзеня адбыліся выбары прэзідэнта. Хаця Выспы Маршала — Богам закінуты край, інтарэс да вынікаў галасавання быў глабальны. Справа ў тым, што іх пераможца — Хільда Хейне, якая ішла на выбары як незалежны кандыдат. Яна стала першай жанчынай-прэзідэнтам у краінах Акіяніі. Раней Хейне, якой зараз 66 гадоў, таксама была першым доктарам навук у краіне і першым прэм'ерам-жанчынай у краіне. Увогуле, жанчыны пакуль не часта займалі кіруючыя пасады ў краінах Акіяніі: толькі ў чатырох краінах кабеты былі лідарамі ўраду (усяго ў Акіяніі каля 30 краін і аўтаномных тэрыторый). Магчыма, перамога Хейне дапаможа павялічыць жаночую квоту ў адміністрацыях акіянскіх краінаў.

**Паводле польскай прэсы**

### РАСІЯ. Хрыстамрырадас не пройдзе!

Унiжняй палаце расійскага парламента заклапаціліся бумам экзатычных імёнаў, якімі бацькі называюць сваіх дзяцей. Яраслаў-Лютабор, Хрыстамрырадас і іншыя такога кшталту імёны, на думку парламентарыяў, могуць знявечыць лёс дзіцяці. Як следства, думскі камітэт па дзяржбудаўніцтву і заканадаўстве парэкамендаваў дэпутатам прыняць у першым чытанні законапраект аб забароне недарэчных дзіцячых імёнаў. Як гаворыцца ў дакуменце, імя «не можа складацца з лічбавых, літарных пазначэнняў, лічэбнікаў, сімвалаў або іх любой камбінацыі, абрэвіятур, ненарматыўнай лексікі, утрымліваць указанні на рангі, пасады». «Даючы незвычайнае, экзатычнае імя свайму дзіцяці, бацькі не заўсёды ўяўляюць, з якімі цяжкасцямі, асабліва ў дзіцячым калектыве, можа сутыкнуцца іх сын ці дачка», — лічаць аўтары законапраекта. Дэпутаты, якія распрацавалі законапраект, прыводзяць жудасны прыклад з гісторыяй хлопчыка, якога бацькі ўжо на працягу 10 гадоў спрабуюць запісаць пад імем «БОЧрВФ260602». Гэты набор літар і лічбаў перакладаецца, як «Біялагічны аб'ект чалавека роду Варонін-Фралова, які нарадзіўся 26 чэрвеня 2002 года».

**Паводле расійскай прэсы**

# Шчодры Елбасы



Фота www.Liter.kz

Алег НОВІКАЎ

**Упершыню ў постсавецкай гісторыі кіраўнік-аўтакрат, а менавіта Нурсултан Назарбаеў, вырашыў адмовіцца ад часткі паўнамоцтваў на карысць урада і парламента. Што стаіць за незвычайным крокам Елбасы, «Новаму Часу» распавядае казахскі праваабаронца Андрэй Грышын.**

***— Нурсултан Назарбаеў 25 студзеня расказаў па тэлебачанні пра план рэформы сістэмы дзяржаўнага кіравання. У выпадку яго рэалізацыі ў кампетэнцыі кіраўніка дзяржавы застануцца выключна пытанні абароны і знешняй палітыкі. Усе іншыя функцыі, калі верыць Елбасы, перадаюцца ўраду і парламенту. У чым прычына такой шчодрасці?***

— Ідэя пераразмеркавання ўладных функцый у Казахстане далёка не рэвалюцыйная: яна абмяркоўваецца з 2008 года. Але лічыцца, што ўсё паскорылі нядаўнія падзеі ва Узбекістане, дзе ўвосень развіталіся з Карымавым. Узбекскія эліты здолелі не пасварыцца і высунулі на кіраўніцтва кампрамісную фігуру — тагачаснага прэм'ера Мірзіёева. Аднак, падаецца, першапачатковы шок і нейкі хаос наконт пытання пераемніка ўсё роўна мелі месца. Гледзячы па ўсім, Назарбаеў вырашыў загадзя перастрахавацца, каб у выпадку нейкага форс-мажору ва ўладзе быў свой чалавек.

***— У Казахстане дзейнічае «Саюз мусульман», які эпатажна каментуе любыя праекты афіцыйнай Астаны. Напрыклад, пасля таго, як Назарбаеў анансаваў новы падатак, «Саюз мусульман» заклікаў абкласці падаткам кожны палавы акт. Аднак ідэю гэтай рэформы «мусульмане» праігнаравалі. Такая абыякавасць — выпадковасць ці трэнд?***

— Хутчэй, трэнд. Хаця афіцыёз намагаецца выставіць Назарбаева як супердэмакрата, ніхто не верыць, што прэзідэнт пагодзіцца быць староннім арбітрам. Чакаецца, што ён захавае рычагі ўплыву на курс парламенту і ўраду. Новы імідж Назараева таксама дазволіць яму перакласці рэгуляванне сацыяльна-эканамічных працэсаў на ўрад і іншыя выканаўчыя органы. За гэтую сферу, дзе хапае правалаў, у поўным аб'ёме будуць адказваць урад, акіматы (абласныя адміністрацыі). Як жартуюць людзі, была ў нас суперпрэзідэнцкая рэспубліка, а будзе проста прэзідэнцкая.

***— Як рэагуе на нечаканыя рэформы апазіцыя?***

— Думаю, пакуль ёй не да рэфлексій на гэтую тэму. Пасля новага года краіна стала сведкам беспрэцэдэнтнай галадоўкі ў Актаў рабочых, якія патрабавалі спыніць ліквідацыю Канфедэрацыі незалежных прафсаюзаў Казахстана. На сярэдзіну студзеня колькасць удзельнікаў акцыі дасягнула 700 чалавек. 18 студзеня суд Актаў прызнаў галадоўку незаконнай, а 21 студзеня прафсаюзных лідараў узялі пад варту. Зараз хапун працягваецца, і дасюль не зразумела, колькі будуць доўжыцца рэпрэсіі і хто яшчэ трапіць пад зачыстку...

***— Ці ёсць нейкая рэакцыя Захаду і Расіі на заявы Назарбаева? Як зменіцца стаўленне ў замежных сталіцах да Казахстана праз задуманыя рэформы?***

— Праз сюрпрызы ад Трампа на Захадзе яўна не да Казахстана. Нават перамовы ў Астане паміж сірыйскай апазіцыяй і рэжымам Асада каментуюць не так шмат, як чакалася. Што тычыцца агучанага 25 студзеня плану рэформ, то пакуль афіцыйных каментараў з боку Захаду няма. Усё абмяжоўваецца артыкуламі ў прэсе.

Там таксама сумняваюцца ў шчырасці намераў Назарбаева адмовіцца ад паўнамоцтваў. Калі б такія рэформы сапраўды планаваліся, то, на думку прэсы, падыход павінен быў быць іншы. Перш за ўсё, трэба было б дэманапалізаваць палітычнае поле, дзе сёння ўсё кантралюе прапрэзідэнцкая партыя «Нур-Атан». Па-другое, неабходна развіваць мясцовае самакіраванне, напрыклад, даць выбаршчыкам на месцах права абіраць кіраўніцтва.

Слаба рэагуюць на дэкларацыі Астаны і ў Маскве. Хіба што навіна зноў натхніла гурткі панславістаў, якія мараць пра хуткае далучэнне Казахстана да Расіі. Чамусьці лічыцца, што без Назарбаева казахская эліта апынецца няздольнай да кіравання краінай. У выніку, маўляў, Казахстан пагодзіцца на негалосную эгіду з боку Крамля, магчыма, у межах канфедэрацыі.

***— Ці ёсць ужо кандыдаты на пасаду прэм'ера або спікера парламента? Як сведчыць практыка, або спікер, або прэм'ер павінен кіраваць краінай у выпадку непрацаздольнасці гаранта. Якія шанцы маюць сваякі Назарбаева?***

— Называюць шмат прозвішчаў, у тым ліку зяця Назарбаева і яго ўнука. А вось шанцы яго дачкі Дарыгі Назарбаевай ацэньваюць не так высока. Апошнім часам бацька чамусьці холадна ставіцца да яе. Прагназаваць, хто выйдзе пераможцам у гэтым конкурсе, — справа няўдзячная. Мала таго, што рашэнні прымаюцца кулуарна, кандыдатуру яшчэ трэба ўзгадніць з усімі жузамі — казахскімі кланамі. Акрамя таго, Назарбаеву не трэба з'яўленне на пасадзе пераемніка вельмі моцнай асобы, якая здолее паставіць пад пагрозу баланс сіл.

З іншага боку, пераемнік павінен быць аўтарытэтам, паколькі, перш за ўсё, мусіць гарантаваць недатыкальнасць актываў і статус назарбаеўскага клану. Нездарма ўсе звярнулі ўвагу на словы гаранта ў прамове ад 25 студзеня пра тое, што ў Канстытуцыю збіраюцца ўнесці дадатковы пункт пра недатыкальнасць прыватнай уласнасці. Па сутнасці, гэта забарона перагляду вынікаў прыватызацыі 1990-х гадоў, на якой Елбасы скалаціў сямейны капітал. Як бачым, крытэры для выбару асобы пераемніка абсалютна супярэчлівыя.

Таму імя пераемніка, і тое, што атрымаецца з рэформы, пакуль — таямніца за сямю пячаткамі.

# «Больш небяспечны, чым Трамп»

Алег НОВІКАЎ

**На выніку вырашальных для лёсу Еўропы выбараў у Францыі і Германіі шмат у чым паўплываюць сакавіцкія выбары ў Нідэрландах. Некаторыя пішуць, што на коне ўся еўрапейская дэмакратыя.**


Фота www.nr2.lt

Па Еўропе гуляе папулярны анекдот пра тое, як у Нідэрландах змагаюцца з праблемай крымiналу. Любы від злачынства ў Амстэрдаме намагаюцца як мага хутчэй легалізаваць і, па магчымасці, брацъ са злачынцаў падатак за іх дзейнасць. Гэты жарт — больш, чым жарт. Гэта квінтэсенцыя галандскай палітычнай культуры, у аснове якой — ідэі лібералізму і рацыяналізму. Праўда, магчыма, гаворка ўжо пра палітычную культуру мінулага. Новыя куміры галандцаў, накшталт Герта Вілдэрса, маюць іншы сімвал веры.

Сітуацыя з Вілдэрсам — лідарам правапапулісцкай Партыі Свабоды, увогуле незвычайная, паколькі знешне ён выглядае як жывая карыкатура на звыклы тыпаж галандскага палітыка-тэхнакрата. Праз свае асляпляльна-белыя валасы Герт падобны, хутчэй, на артыста з цырку-буфф. Правакацыйны выгляд бландзіна дапаўняе скандальная, агрэсіўная рыторыка, якая, дарэчы, ужо каштавала пазывы ў суд.

Выбарчая праграма партыі Вілдэрса, якая, дарэчы, змяшчаецца на адзін аркуш, абяцае галандцам у выпадку перамогі закрыццё ўсіх мячэцяў, дэпартацыю з краіны ўсіх мусульман, забарону Карана. Адмоўнае стаўленне да эмігрантаў шмат каму падаецца своеасаблівай сямейнай траўмай Вілдэрса.

Яго маці нарадзілася ў Інданезіі, якая была тады галандскай калоніяй. Пасля вайны праз ціск мясцовых нацыяналістаў галандскія каланісты вымушаны былі збегчы на гістарычную радзіму, дзе іх трымалі за звычайных іншаземцаў-імігрантаў.

Другая любімая мішэнь у прапагандзе Вілдэрса — Еўрасаюз, які ён трымае за пагрозу для дэмакратыі. Тут Герт, натуральна, эксплуатуе непрыемную для Брусэля гісторыю 2005 года, калі галандцы прагаласавалі супраць праекту Канстытуцыі ЕС. Замест таго, каб шукаць дыялог, кіраўніцтва Еўрасаюза перазапусціла канстытуцыйны працэс. Новы праект — так званы «Лісабонскі трактат», праштурхнулі без усялякіх плебісцытаў. Гэта адгукнулася ростам еўрафобскіх настрояў, што шмат у чым паўплывала на вынік красавіцкага рэферэндуму наконт асацыяцыі Украіна—ЕС. Паколькі асацыяцыю лабіяваў Брусэль, галандскі абывацель, якому да Украіны няма справы, інстынктыўна абіраў пазіцыю «супраць».

Нягледзячы на прымітыўнасць выбарчых пастулатаў, Партыя Свабоды ў топе рэйтынгаў. Калі б выбары адбыліся заўтра, Вілдэрс меў бы пад рукой найбольшую групу дэпутатаў. Праўда, на першы погляд, нічога жудаснага тут няма. Каб сфармаваць кабінет міністраў, трэба абсалютная большасць мандатаў, а ў Вілдэрса большасць — адносная. Акрамя таго, іншыя партыі прысягаюць, што не будуць блакавацца з папулістамі.

Аднак у глабальным вымярэнні, на думку паліталагаў, гэта нічога не вырашае. Праблема палягае не ў тым, што ўрад без партыі Вілдэрса будзе вельмі стракатым (прагназуюць, што кааліцыя будзе складацца з пяці партый) і ўсё скончыцца хуткім урадавым крызісам ды новымі выбарамі.

Праблема ў тым, што феномен Вілдэрса заразіў усю палітычную дыскусію Нідэрландаў. Нават крытыкі папулістаў усё часцей выкарыстоўваюць яго прыёмы і напрацоўкі. Свежы прыклад: заява Марка Рутэ — прэм'ера і лідара кансерватыўнай «Партыі за свабоду і дэмакратыю» (VVD). У духу заяў Вілдэрса палітык-кансерватар прыстрашыў мусульман дэпартацыяй, калі яны не будуць жыць «нармальна». У мінулым снежні той жа Рутэ дамогся, каб у тэксце пра асацыяцыю Украіны з ЕС з'явіўся пункт: «пагадненне не дае Украіне статус краіны-кандыдата на ўступленне ў ЕС, а таксама не з'яўляецца абавязацельствам для прадастаўлення такога статусу Украіне ў будучыні».

Нельга выключаць, што сам Вілдэрс, магчыма, — папросту праява больш глабальных працэсаў. Яго праект нарадзіўся не на голым месцы і не паўстаў на базе якой-небудзь нацысцкай секты. Партыя Свабоды — гэта адкол ад той жа кансерватыўнай VVD, то бок, яе падтрымліваюць дастаткова адэкватныя грамадзяне. У гэтым плане паўстала правакацыйная тэорыя пра тое, што правапапулісцкі рух у Нідэрландах — лагічны прадукт эвалюцыі лібералізму. Мясцовы бюргер, мауляў, бачыць пагрозу прынцыпам талерантнасці і дэмакратыі з боку тых жа ісламскіх фундаменталістаў.

Між тым, паўзучая экспансія папулісцкай думкі ў светапоглядзе галандцаў яшчэ больш небяспечная — з улікам апошніх заяваў Вілдэрса. Ён ахвотна разважае пра неадэкватнасць рэаліям палітычнай мадэлі краіны. Хаця дакладнай альтэрнатывы дэмакратычнаму ладу палітык не прапануе, ён адкрыта крытыкуе цяперашнюю судовую сістэму і парламентарызм. А вось саюзная Вілдэрсу партыя «Форум за дэмакратыю», якая таксама, паводле апытанняў, трапляе ў парламент, мае больш дакладны праект. У выпадку паўстання ўраду Вілдэрса, «Форум» прапануе замест парламенцкай дэмакратыі ўвесці мадэль кіравання праз механізм перманентных рэферэндумаў.

Падобныя праэкты галандскіх палітыкаў вельмі пужаюць экспертны свет. Як піша брытанскі «The Spectator», «Вілдэрс больш небяспечны, чым Трамп, паколькі Трамп усё ж прызнае парламенцкую і прававую дзяржаву». «Яго (Вілдэрса) поспех будзе чорным днём для ўсіх старых дэмакратый Еўропы», — заключае выданне, намякаючы на тое, што менавіта Нідэрланды былі першай у гісторыі буржуазнай дэмакратыяй.

Тое, што пагроза канцэпту дэмакратыі паўстала на яе гістарычнай радзіме, надае сакавіцкім выбарам у Нідэрландах дадатковы сімвалічны прысмак. Нездарма правапапулісцкія медыя ў Еўропе разглядаюць выбары як эпахальныя. У прынцыпе, з гэтым згодныя і дэмакраты. «Калі ворагі Еўропы пераможуць у Нідэрландах і Францыі, Еўрасаюз — самы вялікі цывілізацыйны праект XX стагоддзя, — чакае калапс», — прызнаўся на днях нямецкі віцэ-канцлер Зігмар Габрыэль.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Юлія Цімашэнка



Лідарка ўкраінскай партыі «Бацькаўшчына» паехала ў ЗША з рабочым візітам, які практычна ўсе ўкраінскія медыя называюць «агледзінамі».

За акіянам Цімашэнка будзе мець серыю сустрэч з прадстаўнікамі амерыканскай адміністрацыі. Апошнія, па чутках, шукаюць палітыка, на якога зробяць стаўку на прэзідэнцкіх выбарах ва Украіне. Хаця па закону выбары павінны адбыцца не раней за вясну 2019-га, шмат хто не выключае іх датэрміновага правядзення ўжо ў наступным годзе — праз палітычную нестабільнасць і нізкі рэйтынг Пятра Парашэнкі. У камандзе Трампа наўрад ці будуць супраць такога сцэнару, паколькі памятаюць, як Парашэнка падчас выбараў у ЗША актыўна падтрымліваў Хілары Клінтан.

У такім сцэнары Цімашэнка мае, на першы погляд, някепскія шанцы. За кошт жорсткай крытыкі сацыяльнай палітыкі ўрада і фактаў карупцыі ў атачэнні Парашэнкі яна прарвалася ў лідары сацыялагічных апытанняў. Ніхто з іншых палітыкаў не здольны скласці ёй канкурэнцыю. З іншага боку, яе рэйтынг (11–13 працэнтаў) яўна недастатковы, каб аб'яднаць нацыю для неабходных рэформаў. Не кажучы і пра тое, што ёй часам уласцівы шакавальны папулізм: пасля перамогі Цімашэнка абяцае на раз-два вырашыць праблему высокіх камунальных коштаў на газ і хутка вырашыць пытанне Крыму і сепаратызму на Усходзе.

Нарэшце, новыя фактары — абвастрэнне на Данбасе вакол Аўдзееўкі — могуць таксама паўплываць на рашэнне амерыканцаў, падтрымаць Цімашэнку або не.

### Арманда Рыас Пітэр



Мексіканскі палітык, адзін з лідараў левай партыі Дэмакратычнай рэвалюцыі, найбольш радыкальна адказаў на рашэнне Дональда Трапа пачаць будаўніцтва сцяны на мяжы з Мексікай, якая, нібыта, павінна спыніць мігрантаў.

Праект сцяны вельмі не спадабаўся мексіканцам, якія пагражаюць Вашынгтону парытэтнымі акцыямі. Прэзідэнт адмаўляецца ад кантактаў з Трампам, мексіканцы — спажываць бургеры ў МакДональдсе, паліцэйскія — прапускаць на мяжу Мексікі нелегалаў, якія ідуць у Злучаныя Штаты з Цэнтральнай Амерыкі.

Аднак усіх пераплюнуў Пітэр, які заклікаў узняць пытанне анексаваных мексіканскіх тэрыторый. Гаворка ідзе практычна пра ўвесь цяперашні амерыканскі Захад, які Мексіка страціла ў выніку вайны 1846–1848 гадоў.

Ідэя перагляду вынікаў той вайны падобная на ілюзію, калі б не апошнія працэсы ў штаце Каліфорнія. Мясцовая грамадскасць, у тым ліку і мясцовая адміністрацыя, на знак пратэсту супраць Трампа выступае за выхад штату са складу ЗША. У выпадку, калі супрацьстаянне каліфарніцаў і цэнтру сапраўды абвострыцца, тэма перагляду цяперашніх межаў Мексікі і ЗША будзе падавацца не такой ужо і фантастычнай.

### Марыюш Блашчак



Дырэктар польскага МУС 31 студзеня паведаміў, што яго ведамства будзе дамагацца забароны ўезду ў Польшчу белых мужчын праварадыкальных поглядаў. Такую эмацыйную заяву чыноўнік зрабіў па слядах брутальнага злачынства ў канадскім Квебеку. Там 27-гадовы Аляксандр Бісанет, магістрант мясцовага ўніверсітэта, ультраправы актывіст, застрэліў шэсць наведвальнікаў мячэці.

Хаця Канада ад Польшчы вельмі далёка, Блашчак лічыць пагрозу праварадыкалаў для Польшчы цалкам рэальнай. Па яго словах, заходнія палітычныя эліты дапускаюць шмат памылак у галіне міжнацыянальных адносінаў, ствараючы такім чынам інкубатар правых радыкалаў, ад якіх трэба бараніць Польшчу.

Ідэя Блашчака дастаткова незвычайная з улікам таго, што ў палітычным жыцці Польшчы тон задаюць менавіта правыя палітсілы, а нядаўна ў адным з правінцыйных гарадоў мелі месца пагромы мігрантаў-мусульман. На думку ліберальнай прэсы, крыжовы паход супраць інтурстыаў-праварадыкалаў пагражае не еўрапейцам, а якраз мігрантам з краін трэцяга свету. Магчыма, узмоцніцца кантроль на мяжы з Украінай, дзе праходзіць канал працоўных мігрантаў.

Дарэчы, менавіта Блашчак раней ініцыяваў закон, паводле якога да 1 лютага 2017 года ўсе ўладальнікі мабільных тэлефонаў у Польшчы павінны былі зарэгістраваць свае сім-карты.

# Няўлоўны Каліноўскі: у кроку ад арышту

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Праз вёску Шэйнякі Слонімскага павета па паштовым тракце са Слоніма ў Ваўкавыск 7 кастрычніка 1862 года ў 17 гадзін праехала фурманка, з якой невядомы падарожны раскідваў скруткі папер.**



Непісьменныя тутэйшыя сяляне Марцін Мікуцін, Антон Агіевіч і Міхаіл Лукашэвіч сабралі іх і адправіліся да сваіх адукаваных вяскоўцаў. У хуткім часе змест напісанага на лістках ведалі ўсе Шэйнякі, а затым некалькі падабраных экземпляраў былі перададзеныя і ў суседнія вёскі. У гэты ж дзень адзін са скруткаў у канаве каля Вострава знайшоў селянін Кіпрыян, але ў яго вёсцы не было пісьменных, каб прачытаць улёткі.

### «Дзецюкі!»

«Дзецюкі! Жывучы пад рондам маскоўскім, кожны ведае, што ён нас абдзірае і глуміць...» — менавіта так пачынаўся знойдзены сялянамі дакумент, у якім да іх звяртаўся нейкі «Яська-Гаспадар з-пад Вільні», які тлумачыў грабежніцкі характар аграрнай рэформы, праведзенай 19 лютага 1861 года.

Весткі пра невядомыя брашуры, з якіх «сяляне, чытаючы паміж сабою, здабываюць разнастайную думку», дайшлі да ведама прыстава Слонімскага павета Л. Агаціна. Ён пачаў шукаць крыніцу агідных ідэяў, якія распаўсюджваліся сярод сялян.

У выніку Агацін паехаў па ваўкавыскаму тракту ад вёскі да вёскі і 27 кастрычніка дабраўся да Шэйнякаў. Тут мясцовы староста Людвіг Ляўсковіч паведаміў царскаму службоўцу вестку, якая ўжо на наступны дзень рапартам была дасланая да гродзенскага генерал-губернатара Івана Уладзіміравіча фон Галера: сярод сялян распаўсюджваецца забароненае выданне, якім аказаўся трэці нумар «Мужыцкай праўды».

### Невядомы пад № 16668

Пагражаючы арыштам, Агацін атрымаў два асобнікі «Мужыцкай праўды» і апісанне невядомага падарожнага: апрануты ў авечы кажух з каўняром ад адной доўгай скуры чорнага баранчыка, на галаве фуражка з зоркай грамадзянскага ведамства, на выгляд гадоў 36-ці, сярэдняга росту, брунет з чорнымі вусамі. Сяляне таксама апісалі светлавалосага з русымі вачамі фурмана з Ружанскай паштовай станцыі. Менавіта гэта стала зачэпкай для далейшых росшукаў.

Агацін неадкладна накіраваўся на Ружанскую паштовую станцыю, дзе здабыў наступны запіс з кнігі: 5 кастрычніка за № 16668 быў запісаны шляхціц, які вяртаўся са Слоніма ў Ваўкавыск. Яго імя — Вікенцій Каліноўскі.

Ад фурмана Талая, які суправаджаў Каліноўскага, Агацін даведаўся: падазраваны ў раскідванні «Мужыцкай праўды» працуе ў адным з прысутных месцаў Ваўкавыска, а з Ружанскай станцыі ён ездзіў у Падароск. Далей Агацін 30 кастрычніка накіраваўся ў Слонім, каб высветліць, калі Каліноўскі прыбыў у горад і пры якіх абставінах з яго выбыў.

Каліноўскі меў падарожную ад гродзенскага віцэ-губернатара, выдадзеную для асабістых патрэбаў 5 кастрычніка. Аднак, што ён рабіў у Слоніме, з якога выбыў 7 кастрычніка ў 11 гадзін, так і засталося для прыстава невядомым.

### Наладжванне паўстанцкай арганізацыі ў Слоніме

Каліноўскі ў Слоніме сустракаўся з некалькімі афіцэрамі 3-й артылерыйскай батарэі, сярод салдат якой пазней пачала распаўсюджвацца адозва «Что надо делать войску». Менавіта да гэтага кола належаў харунжы батарэі Міхал Цюндзявіцкі, імя якога стаіць першым у доўгім спісе пакараных смерцю ўдзельнікаў паўстання 1863–1864 гадоў у Беларусі, асуджанага за распаўсюджванне «Мужыцкай праўды» ў Барысаўскім павеце Мінскай губерні.

Другая сустрэча адбылася дзеля арганізацыі працы мясцовай паўстанцкай суполкі, для прыкрыцця таемных сходаў якой выкарыстоўваліся грамадская публічная бібліятэка на чале з бібліятэкарам Цэзарыем Казігродскім і самадзейны тэатр гарадскога доктара Антона Макржэцкага.

Усё гэта засталося невядомым уладам, але Агацін высветліў, што са Слоніма Каліноўскі спачатку накіраваўся да Міжэвічаў на трох конях з фурманам Васюкевічам. Адтуль жа ён дабраўся да Ружанаў, дзе і наняў Талая, каб ехаць у Ваўкавыск. 6 лістапада гэтая інфармацыя паступіла ў Гродна. Яшчэ 1 лістапада губернатар Галер загадаў жандарскаму штаб-афіцэру маёру М.А. Лелякову расследаваць справу пра распаўсюджванне «Мужыцкай праўды» ў Шайняках і адшукаць Каліноўскага. Лелякоў перадаручыў заданне свайму ад'ютанту капітану Вітэ.

Уся гродзенская жандармерыя накіравалася на пошукі Каліноўскага. Як вынік — 8 лістапада стала вядома пра яго прыезд у Вялікую Бераставіцу да ксяндза Ігната Казлоўскага. Вітэ неадкладна скіраваўся туды. Але на месцы нікога не аказалася. Давялося чакаць Казлоўскага, які толькі ў 9 гадзін вечара 8 лістапада вярнуўся дахаты.

### «Не Вікенцій, а Канстанцін Каліноўскі»

З'яўленне жандараў не было для ксяндза нечаканасцю. Таму на пытанні Вітэ адносна Вікенція Каліноўскага, святар спакойна патлумачыў, «што не Вікенцій, а Канстанцін Каліноўскі, будучы даўно знаёмым, заехаў у хату яго, ксяндза, 4 дня ўвечары, г.зн. у нядзелю, і прасіў дазволіць яму, Каліноўскаму, пераначаваць. Але як ксёндз Казлоўскі быў выкліканы дэканам Гінтаўтам у Гродна для атрымання жалавання, то Каліноўскі разам з ім на другі дзень паехаў з нанятым парабкам ад жыхара м. Бржэставіцы Старжынскага, пераначаваўшы ў м. Індура ў заезджай хаце, але не ведае, як гаспадара клічуць. А 6 лістапада адправіліся ў Гродна, дзе сустрэлі цяжкасці ў пераправе праз раку Нёман, пакінуўшы рэчы і коней з чалавекам на занёманскім фарштаце ў заезджай чырвонай драўлянай габрэйскай хаце па мянушцы невядомай, размешчанай пры спуску ў горы, па правым баку. А самі адправіліся ў горад, дзе ксёндз Казлоўскі за атрыманнем ад дэкана Гінтаўта жалавання дзве ночы начаваў у ксяндза Шмігера без Каліноўскага, дзе ж Каліноўскі ў горадзе кватараваў, адклікаўся няведаннем. Прычым растлумачыў, што гэтага дня, а менавіта 8 лістапада, перад ад'ездам сустрэўся з Каліноўскім пры варотах хаты ксяндза Шмігера. Рэчы ж свае Каліноўскі забраў з кватэры ў адсутнасці яго, ксяндза Казлоўскага, бо ключ ад пакоя знаходзіўся ў вышэйсказанага парабка. Прычым дадаў, што Каліноўскі застаўся ў Гродне, і намякнуў, што мае намер ехаць у Вільню для адшукання службы».

У Вітэ не было часу на далейшыя допыты ні ксяндза Ігната Казлоўскага, ні парабка Міхаіла Чывеля, якія суправаджалі Каліноўскага ў Гродне. І пасля праведзенага беспаспяховагаператрусу ў хаце святара, жандар вымушаны быў працягнуць далейшыя пошукі, на падставе якіх 13 лістапада гродзенскі губернатар падпісаў наступную рэзалюцыю: «Паведаміць варшаўскаму обер-паліцмайстру і пану начальніку Віленскай губерні, а таксама гарадскім і земскім паліцыям у губерні. Пра ўсё данесці пану міністру ўнутраных спраў і пану генерал-губернатару. Вельмі патрэбнае».

### Пад пастаянным сакрэтным наглядам

Ваўкавыскі земскі спраўнік Алішэўскі ўстанавіў пастаянны сакрэтны нагляд за Якушоўкай, дзе жыла сям'я Каліноўскіх, якая 25 кастрычніка страціла старэйшага брата Канстанціна — Віктара, памерлага ад сухотаў. І ўсё ж, нягледзячы на рызыку, у сярэдзіне лістапада Каліноўскі прабраўся ў бацькоўскі маёнтак, каб наведаць магілу брата.

У Якушоўцы ён правёў усяго адзін дзень. Яго бацька, Сымон Каліноўскі, пазней паведамляў паліцэйскім: «За ім па пятах ехалі, аднак яны былі на гэтым баку Нёмана, а Канстанцін як дабраўся да Гродна, дык ужо не маглі знайсці».

Паліцыя прыехала ў Якушоўку амаль адразу ж пасля ад'езду Каліноўскага, але так і не здолела яго злавіць. У выніку 30 лістапада ваўкавыскі земскі ісправнік Алішэўскі паведамляў гродзенскаму губернатару, што «Каліноўскі да гэтага часу ў павеце не знойдзены, а між тым даходзяць да мяне чуткі, што ён ужо пайманы». Адказам на яго запыт, ці варта далей шукаць падазраванага ў палітычных злачынствах, было: «Абавязкова. Чуткам верыць няма чаго».

Аднак жандар маёр Лелякоў, нягледзячы на тое, што ўся жандармерыя губерні стаяла на вушах, вымушаны быў паведамляць губернатару: «Па атрыманых жа сведчаннях, ён быццам бы выправіўся па чыгуначнай дарозе ў г. Вільню, але ці знаходзіцца ён цяпер там, ці выехаў далей, невядома». І гэта ў той час, як Сымон Каліноўскі атрымаў ад сына ліст, адпраўлены 5 снежня са сталіцы імперыі — Пецярбурга.

### З Гродна ў Вільню і Пецярбург

17 снежня Вітэ, каб самому высветліць абставіны «аб следаванні Вікенція, ён жа Канстанцін, Каліноўскага з Ваўкавыска ў г. Слонім і назад», накіраваўся ў Ружаны. Капітан жандараў паўторна правёў допыт Івана Талочкі, які вазіў Каліноўскага з Ружанаў на Падароскую станцыю.

Але на дзіва фурман адмовіўся пацвярджаць, што Каліноўскі раскідваў сялянам якія-небудзь паперы. Наадварот, Талочка патлумачыў, што скруткі дакументаў раскідваў невядомы, які ехаў на чацвёрцы рудых коней з Падароскай станцыі праз Шэйнякі. Фурманам у таго быў Салата, які выправіўся з Ружанаў раней, чым Каліноўскі.

Да таго ж Каліноўскі не мог фізічна гэтага зрабіць, бо толькі ўжо ў 16 гадзін 7 кастрычніка быў дастаўлены ў Падароск. Аднак Вітэ, як дасведчаны жандар, зразумеў у гэтых словах спробу заблытаць следства. Паведаміўшы пра тое свайму кіраўніцтву, ён працягнуў працу і высветліў, што з Падароска Каліноўскі адправіўся ў Ваўкавыск з нейкім Бегічам, які ў горадзе заехаў на сваю кватэру, а сам Каліноўскі ў заезджы двор габрэя Мартхілевіча, адкуль 10 кастрычніка накіраваўся ў Гродна.

У кастрычніку-снежні 1862 года жандары на Гродзеншчыне некалькі разоў мелі магчымасць схапіць Каліноўскага, але кожны раз ён выбіраўся з расстаўленых на яго пастак. У выніку здолеў паспяхова дабрацца да Вільні. Тут ён у Літоўскім правінцыйным камітэце адхіліў ад улады стаўленіка Варшавы Нестара Дзюлерана, намагаючыся дабіцца ад польскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта прызнання роўных правоў.

А ў канцы лістапада выехаў у Пецярбург, дзе вяліся перамовы з прадстаўнікамі рускай арганізацыі «Зямля і Воля», а таксама Камітэтам рускіх афіцэраў у Польшчы аб будучым іх удзеле ў сумесным паўстанні. Да таго ж на працягу чатырох месяцаў былі выдадзеныя тры нумары «Мужыцкай праўды» (№ 3, 4, 5)! Нягледзячы на ўсе далейшыя спробы высветліць месцазнаходжанне Кастуся Каліноўскага, расійскім уладам гэта не ўдавалася аж да студзеня 1864 года, калі яму здрадзіў Вітольд Парфіяновіч.

# Піт Андэрсан — «унутраны вораг дзяржавы»



Сяргей ШАПРАН

**Заканчэнне. Пачатак у № 3**

Піт неаднойчы быў завадатарам чагосьці неардынарнага. Напрыклад, тады ж, у сярэдзіне 1960-х, напісаў дванаццаць лістоў заходнім зоркам і атрымаў… тры адказы.

Ён прыгадваў: «Адзін з іх быў вельмі арыгінальны — ад Чака Бэры: на маім канверце, дзе былі налепленыя дурныя маркі з Крамлём і Леніным (у той час толькі такія і былі), стаяла "пячатка" Чака Бэры: чатыры пальцы, якія паказвалі на маркі, і надпіс "return to". Вярнуўшы гэткім чынам мой ліст, які нават не быў распячатаны, Чак Бэры не захацеў падтрымліваць са мной ніякіх стасункаў. Нават не ведаю, чаму. Але затое адказаў Кліф Рычард, які даслаў паштоўку з аўтографам. І адказала вельмі папулярная ў тыя гады англійская спявачка Хелен Шапіра. Так што я быў на сёмым небе!»

Піт заўсёды шукаў сустрэч з замежнікамі — хацеў паспрабаваць сваю англійскую мову. Таму і сустракаўся ў Маскве з заходнімі дыпламатамі, якія пазней прыязджалі да Піта ў Рыгу і прывозілі кружэлкі. Праўда, кожны такі «кантакт» меў для ягонай маці, архітэктара, цяжкія наступствы: яе выганялі з працы. Запрасілі ў КДБ «для размовы» і пасля гісторыі з аўтографамі замежных зорак. Вярнуўшыся дадому, яна біла вінілавыя кружэлкі сына і рвала плакаты. За самім Пітам на чорных «волгах» прыязджалі людзі ў цывільным. Допыты доўжыліся гадзінамі. Музыку папяроджвалі: у КДБ ёсць «людзі, здольныя на ўсё». У выніку Андэрсан паўтара года працаваў у Эстоніі: наездамі — 1965-ы, 1966-ы і 1967-ы…

Ужо ў 1990-я, калі архівы латвійскага КДБ былі рассакрэчаныя, і любы мог выкупіць дасье на сябе, Піт таксама пацікавіўся сваёй «справай». Памятаю, як аднойчы завітаўшы да яго ў госці, убачыў яго ў вялікай разгубленасці: ён чытаў гэбісцкае дасье на сябе і не мог «вылічыць», хто ж пісаў гэтыя даносы.

***

Рыга. Бар гатэлю «Рыга». Суровраў у прысутнасці агента перадаў Андэрсану кнігу Салжаніцына «Архіпелаг ГУЛАГ». На наступны дзень Андэрсан вярнуў кнігу Сувораву… (На думку агента, кніга была ўзятая для перадрукоўкі. — С. Ш.)

Агент «Мікалай», л. д. 20855 («Л. д.», відаць, азначае «личное дело». — С. Ш.)

***

Кантакты замежніцы з жыхаром рэспублікі.

Рыга. Эмісар латышскіх эміграцкіх арганізацый, аб'ект ОП-629 Страўтманіс М. падчас сустрэчы з мастаком камбіната «Дайльрадэ» Андэрсанам П. перадала яму падарункі ад свайго мужа Сцінкурса А., у тым ліку і алоўкі для тайнапісу. (Насамрэч, гэта былі фламастэры. — С. Ш.) Абмяркоўваліся магчымасці яго выезду за мяжу. Страўтманіс М. наведала Андэрсана П. па месцы жыхарства, дзе знаходзілася з 21.13 да 03.20.

***

Рыга. Кіраўнік тургрупы са Швецыі, які падазраецца ў правядзенні эмісарскай дзейнасці, Юрмала М., па дадзеных службы ВН (Відаць, «служба вонкавага назірання». — С. Ш.), у 14.00 на скрыжаванні вуліц Вэйдэнбаума і К. Маркса сеў у аўтамашыну, якая чакала яго і ў якой знаходзіўся ўладальнік аўтамабіля Андэрсан П. Абодва накіраваліся да Хейдэманіса І. Н. на вул. Сапіэру, 1, кв. 45, дзе іншаземец прабыў каля 5 хвілін. Перад гэтым Юрмала М. і Андэрсан П. падчас рухуназіралі, ці не сочаць за імі, дзеля чаго мянялі хуткасць і кірунак руху.

Срэбель, 5 адз.

***

1977 г. Рыга. Андэрсан П. С. пастаянна выношвае намеры выезду за мяжу на сталае жыхарства. З гэтай мэтай усталёўвае кантакты з замежнікамі, у прыватнасці ўсталяваў кантакты з музыкамі ансамбля ЗША. (Пазней у інтэрв'ю кіраўніка гэтага ансамбля радыёстанцыі «Голас Амерыкі» быў згаданы нейкі малады чалавек з СССР, які быў выдатна эрудыяваны ў музыцы «поп» і «кантры». Па словах кіраўніка ансамбля, гэты малады чалавек добра адгукаўся пра Амерыку, цікавіўся крытыкай усяго савецкага і ўсхваленнем усяго заходняга; у кампаніі, якая часта збіраецца ў яго дома, выказваюцца крытычныя думкі пра жыццё ў СССР і ўсхваляецца заходні лад жыцця. Гэтая кампанія складаецца з наступных асоб, якія таксама настроены супраць СССР: … (Здзе пералік прозвішчаў. — С. Ш.) Настрої Андэрсана цалкам падтрымлівае ягоная жонка Івона.

Агент «Оскар», л. д. 13063.

***

№ 55092. Андэрсан выношвае здрадніцкія намеры. Прафілактаваны з афіцыйнай перасцярогай…

***

Пад грыфам «Сакрэтна»

№ 3660 — а/с аг. і прап. рэв. хар. (Відаць, азначае: «антысавецкая агітацыя і прапаганда рэвалюцыйнага характару». — С. Ш.) Удзел у стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі…



«Ні больш, ні менш! — каментаваў Піт апошні кадэбісцкі запіс. — Гэта пры тым, што я ўсё жыццё меў алергію і агіду да любой палітычнай дзейнасці! Але вось так і фабрыкавалі палітычную справу. Відавочна, на ўсялякі выпадак».

Зрэшты, ён быў перакананы, што гэта толькі нязначная частка дасье на яго. Тое ж самае, дарэчы, яму казаў і чыноўнік, што выдаваў копіі дакументаў.

Піт мо два гады спрабаваў вылічыць аўтараў даносаў (гаварыў: «Памятаю, што сядзелі ў гасцініцы, памятаю, пра што гаварылі, але хто быў той трэці, хто напісаў данос?»), але безвынікова. «Вядома, было б велікадушна дараваць ім, але я пакуль яшчэ не гатовы да гэтага, — казаў ён неяк пазней, і дадаў: — Зрэшты, і прагі помсты таксама няма».

## «Ваш выезд немэтазгодны»

«Дыпламатам я так і не стаў, — рэзюмаваў Піт. — Я заўсёды ішоў напралом і ўрокаў так і не зрабіў. Хіба што пакрысе прыйшло ўсведамленне таго, у якой страшнай, усёпажыральнай машыне таталітарызму мы жылі, у якой татальнай культурнай ізаляцыі існавалі, і наколькі крывадушнай і хлуслівай была сістэма і яе прапаганда. Праўда, я ніколі не рабіў таго, што не хацеў. І ніхто не мог прымусіць мяне зрабіць што-небудзь, што было супраць маіх прынцыпаў. У выніку канфлікты з КДБ былі непазбежныя і пагражалі перараварыцца ў знявечанне майго далейшага жыцця. Што лагічна ў выніку і здарылася — пасля таго, як у мяне нарадзілася дачка, у КДБ мне сказалі: "Падумайце: вы можаце страціць сваё дзіця". І я мусіў падняць ручкі».

Гэта была ўжо непрыхаваная пагроза, таму Піт адмовіўся ад далейшай барацьбы і кінуў заняткі рок-н-ролам. Заканчваўся 1971 год. Ён не раз хацеў з'ехаць з СССР — на працягу 1970-х пяць разоў падаваў прашэнні аб эміграцыі, але кожнага разу атрымліваў шаблонны адказ: «Лічым ваш выезд немэтазгодным».

— Як быццам мэтазгоднай была мая прысутнасць тут! — гаварыў Піт.

— І чым вы займаліся ў тыя гады?

— Мне не хочацца вяртацца да гэтага перыяду. Шчыра скажу, не хочацца. Я б хацеў па магчымасці скараціць адказ на гэтае пытанне… Калі казаць у двух словах, дык гэта была дэпрэсія, адчай і страшнае жаданне выехаць з гэтай краіны. Чорны перыяд, звязаны з алкагалізмам, з нявер'ем ні ў заўтрашні дзень, ні ва што.

## Калі мары здзяйсняюцца

Прамінула дзесяцігоддзе. Аднойчы ў Латвію прыехаў эстонскі ансамбль «Rock Hotel», лідар якога Іва Ліна ўзяў Піта ў гастрольную паездку і падчас аднаго клубнага выступу нечакана выштурхнуў яго на сцэну. Пасля гэтага «здарэння» Андэрсан вырашыў паспрабаваць яшчэ раз нешта зрабіць, паколькі рок-н-рол усё адно заставаўся самай найвялікшай любоўю ў жыцці: «Нейкая магія, чараўніцтва існуе ў гэтай музыцы для мяне, — гаварыў ён. — Я люблю любую музыку, якая, на мой погляд, добрая музыка, але сам я належу толькі рок-н-ролу».

Неўзабаве знайшліся і аднадумцы, і далейшая яго гісторыя, калі казаць пунктырна, выглядае так: Рыжскі рок-клуб; зноў КДБ; гурты «Rock'n'roll band», «Doping» (быў забаранены), «Rock Archives», «Pete Anderson & The Arhives».

У 1989-м Андэрсан, адзіны з музыкаў СССР, быў прыняты ганаровым сябрам у Сусветную асацыяцыю выканаўцаў рок-нролу (Варберг, Швецыя), і гэтаксама ён быў адзіным з музыкаў былога Савецкага Саюза, чыё імя было ўпісана ў «Залу славы рокабілі».

Затым былі калектывы «The Rhythm Kings і Pete Anderson Band», «Pete Anderson & The Swamp Shakers» і музычныя альбомы на вініле і CD. Апроч таго ён здолеў нарэшце ажыццявіць даўнюю мару — пабываў у ЗША, дзе сустрэўся з сябрам маладосці Валерыем Сайфудзінавым, у якога, дарэчы, была ўжо свая студыя гуказапісу. І тады ж пазнаёміўся з Карлам Перкінсам…

«Вядома, шкада, што большая частка жыцця прайшла ў дэфармаваным асяроддзі, і тое, што прыйшло да мяне ва ўзросце сарака з лішнім гадоў, магло нікуды не сыходзіць, — гаварыў ён. — Лепшыя гады майго жыцця былі забраныя недарэчнасцю таго, што я нарадзіўся ў гэтай праклятай краіне, якой кіравалі нягоднікі. Я жыў з пачуццём, што знішчаны і як чалавек, і як музыка. Аднак гэты перыяд, калі ўсё бачыў толькі ў чорных фарбах, я ўжо пражыў. Ён вельмі доўга доўжыўся, і пасля яго былі яшчэ ўсялякія рэцыдывы адчаю і дэпрэсіі, калі я ўжо практычна не бачыў ніякага сэнсу свайго існавання».

Мусіць, у апошнія гады ён быў усё ж нарэшце ўзнагароджаны за той драматычны перыяд свайго жыцця: Піт займаўся любімай справай, шмат гастраляваў у Латвіі і па ўсім свеце, у яго была маладая жонка і рос маленькі сын Глен…

Аднойчы, недзе ў «нулявыя» гады, калі я быў у Рызе, маю ўвагу міжволі прыцягнуў незвычайны аўтамабіль, з якога несліся рок-н-рольныя рытмы. Гэта быў чырвоны «кадзілак» 1959 года, сапраўдная рок-н-рольная машына неверагоднай велічыні — больш сямі метраў, яна як карабель, з велізарнымі «плаўнікамі» ззаду. Пра такі аўтамабіль яшчэ ў 1990-я гады распавядаў мне Піт. Казаў, што ў канцы 1950-х маладыя людзі саджалі ў такі «кадзілак» дзяўчат, уключалі гучна рок-н-ролы і наводзілі жах на бюргераў і абывацеляў. Але ездзілі не з шалёнай хуткасцю, а наадварот, лянотна. Адной з вялікіх мар Піта быў якраз такі ўнікальны аўтамабіль. І вось цяпер, праз шмат гадоў, я бачыў на вуліцах Рыгі сапраўдны «кадзілак», з якога даносіліся рок-н-рольныя гукі і за стырном якога сядзеў… Піт Андэрсан. Такім чынам яшчэ адна ягоная мара ажыццявілася (размясціўшы фота з «кадзілакам» на сваім сайце, Піт іранічна напісаў: «Спраўдзілася мара ідыёта!»).

«Лёс, вядома, мае ўладу над чалавекам, — казаў аднойчы мне Піт. — І гэтаму існуе шмат доказаў. Праўда, я не лічу, што чалавек абсалютна нямоглы перад тым, што ён называе рокам, лёсам — у нейкай ступені ён можа ўплываць на лёс. Але гэты ўплыў усё-такі даволі абмежаваны».

…У 2015-м у яго знайшлі рэдкую форму анкалагічнага захворвання. Прыхільнікі таленту 70-гадовага легендарнага музыкі здолелі цягам некалькіх дзён сабраць 21 тысячу еўра для яго лячэння. Аднак медыцына аказалася бездапаможнай: у студзені 2016-га Піта Андэрсана не стала.

**Фота з афіцыйнага сайта Піта Андэрсана www.pitsandersons.lv.**

# Два касцёлы аднаго святога

Аляксей ЧУБАТ

**У Літве 77% грамадзян — каталікі, таму не дзіўна, што наша паўночная суседка багатая на касцёлы. Землі, якія зараз уваходзяць у склад Літоўскай Рэспублікі, атрымалі першы хрост яшчэ ў час Міндоўга — у XIII стагоддзі.**



Новы касцёл Яна Хрысціцеля



Стары касцёл

Адзін з самых старых касцёлаў Літвы — касцёл Яна Хрысціцеля — датуецца XVI стагоддзем. Ён знаходзіцца пад Коўна, у вёсцы Запішкіс. Назва вёскі падказвае, што яна звязана з імем Сапегаў. І гэта сапраўды так.

Дзіўна, але ў кіламетры ад Запішкіса стаіць іншы касцёл, і ён таксама носіць імя Яна Хрысціцеля. Тлумачыцца гэта проста: першы касцёл ужо стаў аб'ектам спадчыны, а набажэнствы цяпер адбываюцца ў новым храме, спецыяльна для гэтага пабудаваным.

Заснаваны ў 1562 годзе першы касцёл знаходзіцца на ўскраіне Запішкіса. Гісторыя сведчыць, што яго будавалі масоны. З аднаго боку храм атачае Нёман, які неаднаразова падтоплівае будынак, з другога праходзіць 140-я траса Коўна—Запішкіс—Шакай. Само ж месца ля храма вельмі маляўнічае.

Касцёл быў заснаваны дзяржаўным і ваенным дзеячам Вялікага Княства Літоўскага Паўлам Сапегам, набажэнствы ў ім вяліся аж да самага пачатку XX стагоддзя. І хаця храм рэканструяваўся шмат разоў, ён да гэтага часу лічыцца адным з унікальных узораў гатычнай архітэктуры. Яго сапраўды варта ўбачыць на ўласныя вочы: спалучэнне чалавечых розуму і рук і мясцовых краявідаў ствараюць незвычайнае, атмасфернае відовішча. Нібыта знаходзішся ў тэатры, і перад табой разгортваюцца падзеі чатырох соцень гадоў.

Больш стагоддзя таму кіраўніцтва дыяцэзіі зацвердзіла праект новага касцёла, і ў 1902 годзе храм Сапегі быў зачынены. Будаўнікі ўзялі з яго некаторыя камяні, іншыя элементы, каб укласці іх у падмурак новага касцёла. Але пабудаваць яго сталася не так проста. Ад праекта да першага набажэнства прайшло сорак гадоў.

Канешне, мясцовыя літоўцы не маглі на дзесяцігоддзі адарвацца ад рэлігійнага жыцця. Ім доўгі час даводзілася ездзіць у храмы суседніх мястэчак, бо стары касцёл, пасля таго, як прынялі рашэнне яго зачыніць, нібы сам не жадаў больш служыць. Падчас Першай сусветнай вайны немцы дэмантавалі яго ны арган, а ў 1930-я будынак выкарыстоўваўся як склад рэчаў. Але ж там захоўваліся не абы-якія прадметы, як у зачыненых храмах СССР, а касцельны рыштунак. У Другую сусветную вайну побач з дзецішчам Сапегі прайшла вузкакалейка, па якой немцы вазілі торф. Касцёл пастаянна затопліваўся водамі Нёмана, а ў 1946 годзе рака ўвогуле абрынулася на храм крыгаходам. Гэты крыгаход быў апошнім выпрабаваннем старога касцёла перад тым, як ён канчаткова перайшоў у стан аб'ектаў гістарычнай спадчыны.

У 1942 годзе ў суседняй вёсцы Клуонішкі, усяго ў кіламетры ад старога касцёла, свае дзверы для вернікаў адчыніў новы. Набажэнствы ў ім адбываюцца і цяпер.

Цікава, што касцёл у Клуонішках з'яўляецца не толькі месцам, якое наведваюць вернікі. Ён надзейна знітаваны з гісторыяй Літоўскай Рэспублікі XX стагоддзя. На двары касцёла можна знайсці некалькі драўляных скульптур — такія малыя архітэктурныя формы вельмі папулярныя ва ўсёй Літве. Напрыклад, адна скульптура — жанчына, якая ахінае дзяўчынку. Над імі — сонца з металу, усярэдзіне якога знаходзіцца жалезны крыж. Элементаў, дзе спалучаецца паганства і хрысціянства, багата на гэтых землях.

Унізе скульптуры з розных бакоў выразаны тры надпісы. Адзін з іх — падзяка Богу за краіну, другі кажа пра сасланых і знішчаных літоўцаў (наўпрост не напісана, хто і калі гэта рабіў). І трэці — падзяка партызанам, імя якіх заўсёды застанецца ў памяці нашчадкаў. Зразумела, размова ідзе пра партызанаў, якія пасля вайны змагаліся за незалежнасць Літвы ад Савецкага Саюза. Іх барацьба дала свой плён: савецкая Літва праіснавала няшмат, і калі краіна атрымала чаканую свабоду, яна адносілася, канешне ж, і да свабоды веравызнання.

Няйначай, ёсць сапраўдны Божы промысел у тым, што адзін касцёл увасобіўся ў двух культавых будынках, якія знаходзяцца на адлегласці кіламетра адзін ад аднаго. Стары касцёл і да нашага часу самотна стаіць на беразе Нёмана, увайсці ў яго пакуль нельга. Але калі яго канчаткова адновяць, храм няйначай пераўтворыцца ў папулярны турыстычны аб'ект.




Універсітэт Лазарскага, Рэспубліка Польшча, г. Варшава

## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але атрымаць «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо проста патэлефанававаць у рэдакцыю (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Таксама можна атрымаць газету ў нашым офісе і ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр.

Кошт аднаго месяца — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 110

Падпісана да друку 03.02.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.